

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

30 ЛІСТАПАДА 2001 г. № 48/4130 КОШТ 136 РУБ.



## БУДЗЬМА РАЗАМ У 2002 ГОДЗЕ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 2002 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў, на шэсць — 6600 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры месяцы — 7500 рублёў, на шэсць месяцаў — 15000 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**

*По дарозе ў снежань...*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*



# КОЛА ДЗЁН

***На гэтым тыдні пачаўся Піліпаўскі пост, які працягнецца ў праваслаўных да Каляд (Нараджэння Хрыстовага). Галоўным сялянскім заняткам у гэты час былі калісь малацьба, прадзенне кудзелі і догляд жывёлы. Царква на працягу посту забараняла вяселлі і гульні. Гэтая пара года — ад канца лістапада да пачатку студзеня — з'яўляецца самай цёмнай, панылай і тужлівай, ад назвы посту яна атрымала імя Піліпаўкі. Ваўчынай пары. Прыгадаем хоць бы радок са славутай Купалаўскай паэмы: "У Піліпаўку воўк нема вые..." Людзі з нецярпеннем чакалі паварот Сонца на цяпло, на вясну...***

***Цяперашняя беларуская Піліпаўка, калі метафарычна перанесці гэты назоў на ўсё наша сённяшняе нялёгкае жыццё, задоўжылася. Нашы людзі мараць усяго толькі аб нармальным лёсе, які не абдзяляе чалавека яго натуральнымі правамі: жыць у адмераным Богам адрэзку прасторы і часу, ведаць, хто ты такі і які твой род, любіць народ свой і родную мову, памятаць, адкуль, куды і дзеля чаго ты прыйшоў і ніколі не забываць пра гэта. Хіба ж гэта хоць трошкі празмернае жаданне?***

## САМІТ ТЫДНЯ

Сёння ў Маскве праходзіць юбілейная сустрэча кіраўнікоў дзяржаў СНД, прымеркаваная да дзесятай гадавіны ўтварэння гэтай паслясавецкай арганізацыі. Цікавы такі аспект: у сустрэчы прымаюць удзел і сёй-той. хто і па сёння настальгуе па СССР і праклінае "трох белавежскіх зуброў", якія "развалілі магутную дзяржаву". А між тым, яны паспрабавалі цывілізавана развесці членаў вялікай савецкай сям'і па іхніх рэспубліканскіх кватэрах — сям'і, якая фактычна ўжо распалася. Урэшце і стварэнню самой СНД удзельнікі сённяшняга маскоўскага саміта абавязаны ім жа, "зубрам" — С. Шушкевічу, Б. Ельцыну і Л. Краўчуку...

## ЗРУХ ТЫДНЯ

Паводле Глабальнай справаздачы Праграмы развіцця ААН аб чалавечым развіцці за сёлетні год, у рэйтынгу краін Беларусь паднялася з 57-га месца на 53-е. Як адзначаецца ў дакуменце, "такі вынік сведчыць пра дасягненні Беларусі ў многіх галінах". Адзін з галоўных паказчыкаў — даход на душу насельніцтва. Аднак улічваюцца і такія паказчыкі, як сярэдняя працягласць жыцця, узровень пісьменнасці і агульны дабрабыт. Што ж, узровень пісьменнасці — факт неаспрэчны, тут мы сапраўды не ў хвасце. А што да працягласці жыцця і агульнага дабрабыту. дык цяжка зразумець, як яны паспрыялі гэтаму зруху Беларусі ў рэйтынгу краін уверх.

## ПАКАЗЧЫКІ ТЫДНЯ

Заўчора "Белорусская нива" апублікавала інфармацыю аб вытворчасці малака і мяса ў раёнах рэспублікі за 10 месяцаў сёлетняга года. Лічбаў у табліцы на палову газетнай паласы — сотні, аднак жа пераважная большасць з іх — сумныя. Вось толькі паказчыкі надою малака ад каровы. Самы высокі — 3736 кілаграмаў — у Гродзенскім раёне, самы нізкі — 1335 — у Петрыкаўскім. Сярэдні паказчык па Беларусі — 2129 кілаграмаў. А кажуць, што амерыканскі фермер не трымае карову, калі яна не дае 5000 кілаграмаў малака за год — яна павінна даваць 6—8 тысяч. Бедныя калгасныя і саўгасныя рагулі! А разам з імі — бедныя і мы. А мо наадварот?

## ПАЛІВА ТЫДНЯ

Свет усё больш вяртаецца да драўніннага паліва. Гэтага вымагае экалогія. Гэтае паліва не парушае ў прыродзе баланс вуглякіслага газу і, значыць, не спрыяе развіццю "цяплічнага эфекту". У паліўным балансе Швецыі, напрыклад, драўніннае паліва складае 20 працэнтаў, а ў вытворчасці цеплавой энергіі перавышае 50 працэнтаў. У нас жа лес дае толькі 4 працэнты паліва. У дадатак у нас вытворчасць і дастаўка драўніннага паліва ў 2-3 разы даражэйшыя, чым у той жа Швецыі ці Фінляндыі. І гэта пры нашай таннай рабочай сіле і гэткай жа таннай тэхніцы. Ці будзе ў нас калі-небудзь іначай? Што трэба зрабіць дзеля гэтага? Пра гэта ішла гаворка на семінары па скарыстанні драўнінных адходаў для цеплазабеспячэння, які быў наладжаны ў Мінску Глабальным эканамічным фондам ПРААН, Еўрапейскай эканамічнай камісіяй ААН і Камітэтам па энергаэфектыўнасці пры Савеце Міністраў РБ. Мо ўрэшце чаму-небудзь і мы навучымся ў тых жа шведаў і розных іншых фінаў?

## РЭКАРДСМЕН ТЫДНЯ

Ідзе падпіска на 2002 год, і друк нямала піша пра гэта. "Народная газета" ў аўторак апублікавала такую інфармацыю: "Свіслацкі край — самы чытэльны". У ёй паведамляецца, што на кожных 100 жыхароў тут прыпадае 70 экземпляраў перыядычных выданняў. Згаданы і больш канкрэтныя лічбы: у раёне, насельніцтва якога 26 тысяч чалавек, сумарны тыраж газет — 17,8 тысячы экземпляраў. Малайцы свіслаўцы! Жывуць больш заможна за іншых — могуць дазволіць сабе раскашавацца і на перыёдыку. А дзе матэрыяльная галота, там і духоўная беднасць. Атрымліваецца насуперак прымаўцы: сытае бруха да навукі глуха? Ды не! Проста гэта розныя рэчы...

## ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

Прыкладна на 34 працэнты павысяцца заробкі бюджэтнікаў у снежні. Такі прагноз зроблены спецыялістамі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны на падставе рашэння ўрада аб павышэнні "мінімалкі" і тарыфнай стаўкі першага разраду. Гэта будзе мець і яшчэ адзін адметны вынік — павышэнне заробкаў дазволіць амаль удвая скараціць колькасць работнікаў бюджэтнай сферы, якія атрымліваюць меней за бюджэт пражытачнага мінімуму, прасцей кажучы — колькасць жабракоў. Калі цяпер іх прыкладна 200 тысяч, дык у снежні стане 100—110 тысяч. Міжволі згадваецца колішні Горкаўскі рэкламны праект і ягоны аднайменны часопіс пад назваю "Наши достижения". Дасягненні, пра якія ідзе гаворка, акурат нашы і толькі нашы!

## ВЫКЛЮЧЭННЕ ТЫДНЯ

На гэтым тыдні расійскі горад Нарыльск занесены ў спіс "закрытых гарадоў". Не таму, што там знаходзяцца сакрэтныя абаронныя аб'екты, а з-за вялізнага наплыву замежных грамадзян, якіх вабяць сюды высокія заробкі. Забарона тычыцца і грамадзян СНД. Выключэнне зроблена толькі для беларусаў — ім па-ранейшаму доступ у Нарыльск вольны. Так што — едзьце і багацейце, браткі беларусы! Балазе, дома зрабіць гэта не так і лёгка.

## БУТЭЛЬКА ТЫДНЯ

Гэткай радасцю нас адорваюць штогод такою парою, калі застаецца нейкі месяц да надыходу Новага года: маўляў, ніхто за навагоднім сталом не застанецца без шампанскага, на кожнага беларуса ў пераразліку будзе выпушчана па бутэльцы шыпучага напою. Гэтым і сёлета нас абрадавалі. Праўда, нагадалі, што час адвыкаць ад назову "шампанскае" і прывыкаць да больш дакладнага словазлучэння "шыпучае віно". Дарэчы, і Мінскі завод шампанскіх він мае сёння назоў завода шыпучых він. Ну дык і што, спадарове, парадуемся? Зрэшты, а чаму б і не! "Павінна ж быць і ў зайца радасць перад халоднаю зімой"...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Шмат жадаючых сабралася на сустрэчу са старшынёй СБП Вольгай Іпатавай у сярэдняй школе № 12 горада Баранавічы. Разам з вучнямі і настаўнікамі на сустрэчу прыйшлі і прадстаўнікі грамадскасці горада і раёна.

В. Іпатава распавяла пра сённяшнія справы старэйшай у краіне творчай арганізацыі, адказала на пытанні прысутных. Вялікая ўвага з боку гледачоў была аказана ёй і як аўтару цікавых раманаў, аповесцяў, вершаў.

Разам з В. Іпатавай у сустрэчы прынялі ўдзел кіраўнік сталічнага тэатра "Зьніч" Галіна Дзягілева і баранавіцкі ансамбль старажытнай музыкі "Кантраданс".

На завяршэнне В. Іпатава ўручыла падарункі для школьнай бібліятэкі — кнігі У. Караткевіча, А. Вярцінскага, Г. Бураўкіна і іншых.

●

"Каліна зімы" — так называлася вечарына маладых паэтаў, якая адбылася ў вялікай зале сталічнага Дома літаратара. Вёў яе Леанід Дранько-Майсюк.

У цікавай творчай пераклічцы бралі ўдзел Валерыя Кустава, Мікола Віч, Сяргей Патаранскі, Аляксей Адзінец, Мікола Адам, Наталля Капа і многія іншыя.

З цікавасцю былі сустрэты таксама выступленні Адама Глобуса, гурта "Цвік", прадстаўнікоў літаратурна-мастацкага аб'яднання "Крокі" Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка (кіраўнік М. Шабовіч).

●

Свой 60-гадовы юбілей паэт, парадыст, празаік Павел Саковіч прыехаў адзначыць у родны яму горад — Оршу. Тут, у цэнтральнай бібліятэцы імя Пушкіна, адбылася яго творчая вечарына, у якой разам з юбілярам прынялі ўдзел кампазітар Мікола Яцкоў, намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч і галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Алесь Пісьмянкоў.

Але галоўным героем сустрэчы быў сам Павел Саковіч. Ён чытаў новыя вершы, пародыі, адказваў на пытанні прысутных.

НАДЗЁННАЕ

# "Мова і культура народа ў кантэксце глабалізацыі"

Міжнародная арганізацыя ЮНЕСКА, Саюз беларускіх пісьменнікаў выступіў з ініцыятывай аб правядзенні (у ліпені 2002 года) Міжнароднага сімпозіума на тэму **"Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі"**. Партнёрамі пісьменнікаў у ажыццяўленні гэтай задумы выступаюць Белдзяржуніверсітэт, Белдзяржпедуніверсітэт імя М. Танка, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі, грамадскія аб'яднанні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і "Фонд Льва Сапегі". Праект правядзення сімпозіума знайшоў падтрымку нацыянальнай камісіі па пытаннях адукацыі і культуры ЮНЕСКА, Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Утвораны аргкамітэт, яго ачольваюць некалькі сустаршынь. Адбылося першае пасяджэнне. На ім абмеркаваны і зацверджаны асноўныя пытанні, якія павінны атрымаць сваё асвятленне на форуме:

**1. Мова, культура і адметнасць нацыі.**

**2. Роля мовы ў развіцці літаратуры і іншых аспектаў культуры.**

**3. Нацыянальныя культуры ў дыялогу цывілізацый.**

**4. Аб ролі дзяржавы ў кіраванні моўнымі працэсамі.**

**5. Перспектыва развіцця і карыстання беларускай мовай.**

**6. Ужыванне беларускай мовы ў сферы дзейнасці органаў дзяржаўнай улады.**

**7. Мова і адукацыйны працэс (тэхналогія беларускасці на Беларусі).**

**8. Разнастайнасці моў, нацыянальных культур і ўстойлівае развіццё цывілізацыі.**

У сімпозіуме прымуць удзел як свае, айчынныя, так і зарубежныя спецыялісты, вучоныя, эксперты, заканатворцы, палітыкі, прадстаўнікі міжнародных уплывовых арганізацый. На ім будзе прадстаўлена магчымасць для грунтоўных выступленняў пісьменнікаў і прадстаўнікоў іншых колаў інтэлігенцыі.

У абмеркаванні плана падрыхтоўкі сімпозіума чынны ўдзел прынялі старшыня СБП Вольга Іпатава (сустаршыня), намеснік міністра культуры Валеры Гедройц (сустаршыня), першыя прарэктары названых вышэй універсітэтаў Алег Яноўскі і Васіль Бондар, старшыня Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Ігар Катляроў, доктар гістарычных навук Леанід Лыч, намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч (сустаршыня), намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа Аляксандр Лукашэнец, старшыня ТБМ Алег Трусаў (сустаршыня) і іншыя.

На наступным пасяджэнні, якое адбудзецца 11 снежня ў СБП, аргкамітэт разгледзіць прапановы па складзе асноўных дакладчыкаў і абмяркуе пытанне аб персаналіях гасцей, якіх належыць запрасіць на форум з-за межаў рэспублікі. Прымаюцца прапановы.

**Васіль ЯКАВЕНКА,**
**каардынатар праекта**

**АД РЭДАКЦЫІ. Надаючы вялікую ўвагу маючаму адбыцца ў верасні 2002 года сімпозіуму па пытаннях мовы і культуры народа ў сучасным свеце, усведамляючы актуальнасць парадку дня форуму для грамадзянскай супольнасці ў нашай краіне, рэдакцыя штотыднёвіка "ЛіМ" прапануе сваім чытачам разгарнуць дыскусію па пытаннях, што выносяцца на абмеркаванне.**

**У наступным нумары мы паведамім аб плане асноўных мерапрыемстваў аргкамітэта, якія будуць праведзены ў парадку падрыхтоўкі ліпеньскай падзеі ў культурным жыцці рэспублікі.**

ІМПРЭЗЫ

# І гучала слова «Вытокі»

У мінулую пятніцу ў Лепельскім раённым Доме культуры панавала святочная атмасфера. Прадстаўнікі грамадскасці горада і раёна віншавалі свайго славутага земляка лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатоля Вярцінскага ў сувязі з яго 70-годдзем з дня нараджэння. Урачыстасць пачалася выступленнем хору ветэранаў, які выканаў песню «Два полі» Эдуарда Ханка на словы А. Вярцінскага. Пра паэзію, пра творчую і грамадскую дзейнасць юбіляра гаварылі паэты, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Навум Гальпяровіч і галоўны рэдактар газеты «ЛіМ» Алесь Пісьмянкоў. З чытаннем вершаў Анатоля Вярцінскага выступіла вядомая актрыса, мастацкі кіраўнік тэатра «Зьніч» Галіна Дзягілева...

Анатоля Вярцінскага віталі намеснік старшыні Лепельскага гарвыканкама Вера Закрэўская, загадчыца аддзела культуры Тамара Бароха, дырэктар раённай бібліятэкі Галіна Пшанко, дырэктар Дома культуры Тамара Харкевіч, кіраўніца народнага літаратурна-музычнага клуба «Вытак» пры РДК Вольга Зайцава, сябры клуба, настаўніца Бабраўскай СШ, пачынаючая паэтэса Іна Мароз і журналістка, супрацоўніца газеты «Лепельскі край» Людміла Барадзейка. Бралі ўдзел ва ўрачыстасці са сваёй адметнай праграмай настаўнікі і вучні-старшакласнікі Матырынскай школы, у якой вучыўся юбіляр. Віншавалі знакамітага земляка выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры іншых школ горада і раёна. Вітала юбіляра сяброўка яго дзяцінства, былая мэр Лепеля В. Зарахава.

А. Вярцінскі гаварыў у сваім слове пра планы і новыя задумкі. Падчас урачыстасці гучала не раз слова «вытак». Як назва папулярнага ў раёне самадзейнага літаратурна-музычнага аб'яднання (яму ў 1995 годзе было нададзена званне "народны"). І як сінонім роднага кута, малой радзімы Анатоля Вярцінскага

Даруйце, адвечныя каменні!

Даруйце, вытокі! Даруйце, карэнні!" — гучалі радкі паэта ў выкананні Галіны Дзягілевай. Гучалі як своеасаблівы лейтматыў сустрэчы паэта з землякамі.

**Н. К.**

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

## Пра свой юбілей

ПАЎЖАРТАМ — ПАЎСУР'ЁЗНА

*Гэта ж трэба — дажыць да сямідзесяці!..*
*Так, бацькі бласлаўлялі: "Вялікі расці!"*
*Гадавалі, стаўлялі на ногі,*
*рыхтавалі да доўгай дарогі.*
*Але ж трэба было яе прайсці.*
*І, глядзіце, дайшоў да сямідзесяці!*
*"Сто лят!" — я чуў ад пары да пары.*
*Так у дзень нараджэння віталі сябры.*
*"Ты гадоў да ста расці, Толя!" —*
*віншавала, бывала, застолле.*
*Я паверыць застоллю быў гатоў,*
*І "дарос" да сямідзесяці гадоў.*
*Мне казалі ў гасцях: "Пабудзь, пагасці!"*
*Загасцяваў да сямідзесяці.*
*Мне казалі: "Круціся, вярціся ў жыцці!"*
*Давярцеўся Вярцінскі да сямідзесяці.*
*Адыходзілі рана бацькі, сваякі.*
*Ну, а ты, паглядзі, даўгавечнік які,*
*доўгажыхар які спраўны,*
*Мафусаіл новаяўны...*
*Хоць парой і хацеў адысці, сысці,*
*не адышоў да сямідзесяці.*
*У сваё семдзесят, кажуць, я молад-дуж?*
*А таму, што люблю прымаць ранцай душ.*
*Не зайздросціў нікому ніколі.*
*Не насіў у душы злой волі...*
*Што ж, кажу, так свой крыж і далей нясі!*
*І далей так нясі пост-сямідзесяці!*
*"Ой ты гой есі, ой ты гой есі, ой ты гой есі!.."*
18—23 лістапада 2001 г.

●

Хацеў бы праз паважаны "ЛіМ", працы ў якім аддаў нямала сілаў і часу, выказаць сардэчную падзяку ўсім, хто павіншаваў мяне ў той альбо іншай форме (публікацыі, лісты, тэлеграмы, тэлефонныя званкі) з сямідзесяцігоддзем. Асабліва, з нізкім паклонам, дзякуй маім землякам-лепяльчанам за іх увагу, віншаванні і надзвычай цёплы прыём на роднай лепельскай зямлі.

**А. В.**

# Румыны — народ старажытны

*1 снежня 1918 года ўтварылася адзіная нацыянальная румынская дзяржава, якая сёлета адзначае 83-ю гадавіну свайго існавання.*

*З Паверaным у справах Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь Леанцінам ПАСТАРАМ гутарыць наш карэспандэнт Марыя РУДОВІЧ.*



**— Спадар Пастар, культура румынскага народа сягае глыбокай старажытнасці. Гісторыя і культура Румыніі — набытак усяго чалавецтва. Як сёння ў краіне ставяцца да ўласнай гісторыі, да вытокаў сучаснасці?**

— Сапраўды, гісторыя для нас — гэта вельмі важнае пытанне, бо румынскі народ, як лічыцца, сфарміраваўся ў VI стагоддзі, гэтак жа як і румынская мова, што заснавана на латыні. Румыны — народ старажытны, але ва ўсе часы тут жылі і жывуць прадстаўнікі іншых народаў, што робяць свой унёсак у культуру дзяржавы. На той ці іншы гістарычны факт сёння маюцца самыя розныя пункты гледжання, гістарычныя падзеі абмяркоўваюцца падчас правядзення шматлікіх семінараў, сімпозіумаў, дыскусій, але трэба адзначыць, што імі цікавіцца ці не кожны румын, бо гісторыя — гэта барацьба за незалежнасць, за існаванне. На тэрыторыі сучаснай Румыніі першыя дзяржаўныя ўтварэнні — княствы Малдова і Валахія, а пасля Трансільванія — з'явіліся на пачатку II тысячагоддзя, калі Дакію пакінулі рымскія войскі. Мы заўсёды знаходзіліся на скрыжаванні шляхоў паміж Поўднем і Поўначчу, на сутыкненні інтарэсаў магутных імперый, што фарміраваліся побач. Доўгі час мы стрымлівалі націск Асманскай імперыі і гублялі пры гэтым багата матэрыяльных і людскіх рэсурсаў, пазней з намі суседзілі Аўстра-Венгрыя і Расія, а таксама Турцыя. Гісторыя адлюстроўвае жаданне нашага народа жыць спакойна, стабільна, ціха. Гісторыя для нас — узнікненне 1 снежня 1918 года адзінай румынскай дзяржавы — гэта доказ таго, што народ, які змагаецца за сваю свабоду, за сваё існаванне, заўсёды пераможа. Мы ганарымся тым, што ў нас існуюць шматлікія помнікі архітэктуры, якія былі пабудаваны за часамі грэчаскіх і рымскіх плямёнаў, захаваліся сляды рымскай інфраструктуры. Румынскі народ — гэта лучнасць мясцовага дакскага насельніцтва з насельніцтвам рымскім. Сёння ў нас на першым плане пытанні эканамічныя, пытанні рэфармавання і стварэння рынкавай эканомікі, уваходжання ў Еўрапейскі саюз і Паўночны альянс. Мы падпісалі дамовы пра супрацоўніцтва з Венгрыяй, Балгарыяй, Югаславіяй, Украінай, зараз рыхтуемся падпісаць адпаведную дамову з Расіяй, зацікаўлены ў супрацоўніцтве з усімі краінамі, у тым ліку з Беларуссю, у стварэнні стабільнай Еўропы.

**— Румынія — шматнацыянальная дзяржава. Як сёння на практыцы рэалізуюцца творчыя памкненні розных этнічных груп?**

— У Румыніі побач і разам з румынамі жывуць амаль паўтара мільёна венграў, а таксама этнічныя ўкраінцы, балгары, сербы, немцы, якія адыгралі вельмі істотную ролю ў гісторыі нашай краіны, а таксама яўрэі, армяне, грэкі, што жылі тут цягам стагоддзяў. Пытанне нацыянальных меншасцяў заўсёды было вельмі актуальным, таму прадстаўнікі еўрапейскай супольнасці дапамаглі нам выпрацаваць законы, якія забяспечваюць правы меншасцей і годныя ўмовы для іх развіцця, захавання культуры, традыцый і духоўных набыткаў. У апошнія гады мы, уласна кажучы, вырашылі гэтыя надзённыя пытанні. У тых мясцовасцях, дзе сканцэнтравана больш за 20 % меншасцей, усе назвы ўжываюцца на дзвюх мовах, дзейнічаюць нацыянальныя школы, выдаюцца газеты і часопісы, якія, дарэчы, фінансуюцца дзяржавай, працуюць мясцовае радыё і тэлебачанне, дзейнічае адміністрацыя, дзе кіруюць прадстаўнікі нацыянальных меншасцей. Кожны народ на тэрыторыі Румыніі мае магчымасць атрымаць выхаванне і адукацыю на роднай мове, мы робім захады, каб усе мелі магчымасць карыстацца ёю ў судах, у дзяржаўных установах, свабодна спавядаць тую ці іншую рэлігію. Нацыянальным меншасцям належыць блізу 6 % месцаў у парламенце, і трэба адзначыць, што прадстаўнікі, якія вылучаны ў вышэйшы орган краіны, працуюць вельмі актыўна і плённа. Яскравым прыкладам удалага вырашэння праблем нацыянальных меншасцей у нашай краіне з'яўляюцца венгры, якія маюць свой саюз з паўнамоцтвамі палітычнай партыі, венгерскі універсітэт, дзе выкладанне вядзецца адно на венгерскай мове, 1700 сумесных прадпрыемстваў у Трансільваніі — месцы кампактнага пражывання венграў, — якая раней была прынцыпатам, а пасля доўгі час належала Аўстра-Венгрыі. Венгры маюць таксама магчымасць свабодна перасякаць мяжу, працаваць на тэрыторыі Венгрыі і вяртацца назад: толькі летась мяжу перайшлі 14 мільёнаў чалавек. На жаль, для нацыянальных меншасцей мы не можам стварыць эканамічных умоў лепшых за тыя, што маюць румыны, але калі мы будзем усе разам больш і якасней працаваць, дык і ўмовы будуць лепшыя.

**— Якія ў сённяшняй Румыніі ўзаемадачыненні дзяржавы і творчых арганізацый, у прыватнасці, Саюза пісьменнікаў? У якой ступені яны адчуваюць дапамогу і падтрымку дзяржавы, уплыў на свабоду творчасці?**



— Творчыя саюзы засноўваюць свае часопісы і газеты, маюць свае выдавецтвы, публікуюць тыя творы, якія лічаць вартымі выпуску: дзяржава не прычыняецца да кіраўніцтва гэтым працэсам. Што тычыцца Саюза пісьменнікаў, дык ён вельмі своеасаблівы і спецыфічны: тут існуюць розныя погляды і плыні, творцы могуць аб'ядноўвацца ў адпаведнасці са сваімі інтарэсамі. Некаторыя румынскія пісьменнікі не з'яўляюцца сябрамі саюза, бо маюць свой пункт гледжання на розныя жыццёвыя праблемы. Саюз пісьменнікаў падтрымлівае творцаў, дзейнічае літаратурны фонд, сістэма сацыяльнага забеспячэння. Адначасова пісьменнікі з'яўляюцца сябрамі розных рэдакцый, асацыяцый, займаюцца бізнесам. Сёння ў румынскую літаратуру прыйшлі маладыя паэты і празаікі, народжаныя новымі сітуацыямі, новай рэчаіснасцю. Кожны, хто хоча займацца творчасцю, зараз мае такую магчымасць.

**— У Румыніі заўсёды была добрая паліграфія, друкарская справа развівалася з даўніх часоў. Як сёння жывуць выдавецтвы?**

— Ёсць выдавецтвы розныя, у тым ліку і прыватныя. Некаторыя пратрымаліся дужа кароткі час, бо не вытрымалі канкурэнцыі, не маглі атрымаць прыбытак і развівацца ці кіраўнікі проста не разбіраліся ў справах належным чынам. Але ёсць і вельмі моцныя выдавецтвы, нават багатыя, якія выпускаюць не толькі кніжную прадукцыю, але і перыёдыку. Узначальваюць такія выдавецтвы звычайна людзі, што доўга і плённа працавалі ў творчых саюзах, на тэлебачанні, радыё, маюць адпаведную прафесійную падрыхтоўку. Гэтыя выдавецтвы атрымліваюць і спонсарскую дапамогу, бо для тых прадпрыемстваў і ўстаноў, якія спансіруюць культуру, памяншаюць падаткі. Дзейнічаюць выдавецтвы, якія выпускаюць серыю "Універс", ёсць такія, якія знаёмяць чытача толькі з творамі маладых аўтараў, ёсць тыя, што займаюцца выданнем адно перакладной літаратуры. Захаваліся друкарні, што друкуюць прадукцыю палепшанай якасці. Але ёсць і прадукцыя масавага попыту, што каштуе значна танней. Трэба зазначыць, што людзі ў нас вельмі шмат чытаюць, маюць вялікія бібліятэкі, асабліва людзі сталага веку.

**— Паміж Беларуссю і Румыніяй у галіне культуры існуюць даволі цесныя сувязі. У літаратурным штотыднёвіку "Лучафэрул" былі апублікаваны творы беларускіх пісьменнікаў, у газеце творчай інтэлігенцыі Рэспублікі Беларусь плануецца падборка румынскай літаратуры на беларускай мове. У № 6 часопіса "Всемирная литература" змешчаны вершы М. Эмінэску, вечарына, прысвечаная яго памяці, прайшла ў Доме дружбы. Якім вам бачыцца шлях далейшага супрацоўніцтва Беларусі і Румыніі ў галіне культуры?**

— Сувязі паміж нашымі краінамі ў галіне культуры існуюць не адно дзесяцігоддзе. Неаднаразова мы арганізоўвалі ў Мінску розныя выставы, сюды прыязджалі нашы пісьменнікі, а беларускія творцы наведвалі нашу дзяржаву. Зараз гэтыя сувязі, якія не мелі належнага развіцця з-за фінансавых цяжкасцей, узмацняюцца, пашыраюцца, актывізуюцца. Адзін з найпершых клопатаў — апублікаваць зборнік румынскай паэзіі на Беларусі, а беларускай — у Румыніі, спадзяюся, спраўдзіцца, бо праца ў гэтым накірунку ўжо вядзецца. Гэта адна з задач румынскага пасольства ў Мінску і беларускага пасольства ў Бухарэсце. Увогуле, нашы народы маюць шмат агульнага: падобныя фальклор, абрады, строі, колеры, песні, музыка. Агульныя рысы ёсць у побыце, у псіхалогіі: абодва народы вельмі спагадлівыя, добрыя, цярплівыя. Беларусы і румыны заўсёды дапамагаюць тым, хто жыве побач, між тым упэўнены, што чалавек — гаспадар тых мясцін, той зямлі, дзе жылі яго дзяды і прадзеды, гаспадар сваёй спрадвечнай спадчыны. Таму і канцэпцыі жыцця і творчасці ў нас вельмі падобныя, і культуры блізкія. Гэта вельмі важна для ўзаемаразумення, для духоўнага ўзаемаўплыву, для далейшага развіцця нашых краін на шляху сяброўства і згоды.

## АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА...*

### Сустрэча праз дзесяць гадоў

Сталае сяброўства паэтаў Берасцейшчыны і Валыні пачалося 25 гадоў таму, бо з таго часу сумесныя літаратурныя святы зрабіліся штогадовымі, традыцыйнымі. А прамежкі перад кожнай сустрэчай запаўняліся ўзаемнымі перакладамі твораў, абменам кнігамі і навінамі з літаратурных часопісаў і газет, ліставаннямі. Пра творчае пабрацімства добра ведалі не толькі на памежжы, а і шырока ў дзвюх рэспубліках, бо гэта быў важкі ўклад у беларуска-ўкраінскія культурныя стасункі. На жаль, у 90-х традыцыя, важная і карысная не толькі для пісьменнікаў, перапынілася на дзесяцігоддзе. Сёлета, нарэшце, яна атрымала працяг. Нягледзячы на тое, што некалі сімвалічная "празрыстая" мяжа стала дзяржаўнаю.

17 лістапада сябры сустрэліся ў Ратнеўскім раёне Украіны, а 23-га — у Маларыце. У праграме — вітанні на беларуска-ўкраінскай мяжы, гутаркі з кіраўнікамі і работнікамі культуры раёнаў-суседзяў, наведванні спаленых падчас вайны вёсак Боркі (Беларусь) і Картэлісы (Украіна), літаратурныя выступленні ў школах, калгасах, на прадпрыемствах, у бібліятэках. Зноў, як і сталася традыцыйна, сябры абмяняліся новымі кніжкамі, газетамі і альманахамі з узаемнымі перакладамі. Ад берасцейскай пісьменніцкай сябрыны ў літаратурных святах прынялі ўдзел Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, Анатоль Крэйдзіч, Мікола Папека, Ярына Дашына, Аляксей Філатаў. Валынскія і берасцейскія літаратары маюць намер выдаць сумесную кніжку твораў на дзвюх мовах.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

### Памяць жыве

Гомель адзначыў 58-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Яго вызваліцеляў гэтымі днямі цёпла віталі ў вайсковых часцях, у ВНУ, школах і вучэльнях. У гарадскім Цэнтры культуры адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прайшоў канцэрт. А ў філіяле карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў была разгорнута выстава работ гомельскіх жывапісцаў, прысвечаная гэтай знамянальнай даце.

### Сямейны дуэт

Вось ужо дзесяць гадоў як актыўна працуе творчы сямейны дуэт — Мікола і Яўгенія Феі. Яны — разьбяры па дрэве. Іх творы з поспехам экспанаваліся на выставе гомельскіх мастакоў "Адвечныя Палесся далягляды", якая прайшла ў Мінску. Першая персанальная выстава майстроў адкрылася ў Гомельскім абласным цэнтры народнай творчасці.

### Паэтка з "Вясёлкі"

Пятнаццацігадовая Юля Каваленка — выхаванка Мазырскага цэнтра рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў "Вясёлка" — піша вершы. Пры падтрымцы Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам у свет выйшла кніжка вершаў Юлі "Пусть на земле улыбки, как розы, цветут".

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

### Свята Караткевіча

Дзень літаратуры, прысвечаны славутаму земляку Уладзіміру Караткевічу, пачаўся ў Віцебску традыцыйна — ля помніка пісьменніку. У бібліятэцы, якая носіць яго імя, прайшлі літаратурныя чытанні. А літаратурны музей упраўлення культуры аблвыканкама і абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў ладзілі свята з нагоды ўручэння абласных прэмій імя Караткевіча. Яны былі прысуджаны рэктару Віцебскага дзяржуніверсітэта Аркадзю Русецкаму за кнігу "Уладзімір Караткевіч: праз гісторыю ў сучаснасць. Нататкі літаратурнай творчасці", якая была выдадзена летась у другі раз; паэту Давіду Сіманавічу за прапаганду жыцця і творчасці Караткевіча і за творы апошніх гадоў; літаратуру з Пастаўскага раёна Аркадзю Нафрановічу за кнігу "Мая Адысея", якая выйшла сёлета ў выдавецтве "Юнацтва".

### Сустрэча з чытачамі

У Віцебскім цэнтры культуры прайшла творчая вечарына Давіда Сімановіча. Гучалі творы розных гадоў, дэманстраваліся кадры кінахронікі аб сустрэчы вучняў і настаўнікаў Крынкаўскай сярэдняй школы, дзе паэт пачаў свой творчы шлях. Нікога не пакінулі абыякавымі вершы з новай кнігі паэта "Душа за облако цеплялась", якая выйшла нядаўна ў Віцебску. Гучалі песні на словы Сімановіча, пераклады ягоных твораў на нямецкую, англійскую і французскую мовы. Паэт, які ў наступным годзе адзначыць сямідзесяцігоддзе, у чарговы раз сустрэўся з прыхільнікамі сваёй творчасці.

**Святлана ГУК**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

### Залатыя рукі

Жыхарка вёскі Погіры Дзятлаўскага раёна Ніна Візгір атрымала ў свой час пасведчанне трактарыста. Працавала памочніцай камбайнера. Разам з мужам не раз займала прызавыя месцы на жніве. Зараз яна на заслужаным адпачынку. Але часу сумаваць няма. У жанчыны залатыя рукі. Умее прасці і ткаць, вязаць і вышываць, выразаць па дрэве, маляваць. Упрыгожвае адмысловымі вырабамі не толькі сваё жыццё, але й прыносіць радасць аднавяскоўцам.

### Спявак прыехаў да сяброў

Летась жыхары Дзятлава пазнаёміліся з вядомым спеваком і кампазітарам Уладзімірам Ухцінскім. У бліжэйшы час артыст зноў прыедзе на Дзятлаўшчыну. Ён падрыхтаваў новую праграму "Маім сябрам-2".

**Іосіф ЗАЯЦ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

### Лазовыя карункі

У Горках дзейнічае аматарскае аб'яднанне па адраджэнні аднаго з самых старажытных беларускіх рамёстваў — лозапляценне. Называецца яно "Лазінка" і працуе пры мясцовым гісторыка-этнаграфічным музеі з 1994 года. Кіруе народным аб'яднаннем Тамара Багдановіч. У "Лазінку" ўваходзяць больш за дваццаць майстроў — выкладчыкі сельгасакадэміі, студэнты, пенсіянеры. "Лазінка" стала пераможцай фестывалю "Беларусь — мая песня", удзельнічала ў "Славянскім базары", прымала ўдзел у фестывалі сямейнай творчасці "Сузор'е талентаў", які праходзіў у Мсціславе.

**Лідзія МАХІНА**

## *Дні Латвіі ў Віцебску*

**У Віцебску прайшлі традыцыйныя Дні Латвіі, прымеркаваныя да латышскага дзяржаўнага свята — Дня незалежнасці. Афіцыйная дэлегацыя ў складзе нашых суседзяў з Даўгаўпілса, Рэзэкнэ, Краславы ў гарвыканкаме абмеркавала планы далейшага супрацоўніцтва. Акрамя бізнес-сустрэч, улады Віцебска наладзілі вялікую культурную праграму. У тэатры імя Якуба Коласа з поспехам прайшоў спектакль даўгаўпілскіх артыстаў па п'есе Яніса Райніса "Вей, ветрык". Гэта было сімвалічна, бо 75 гадоў таму сам Я. Райніс прысутнічаў на адкрыцці БДТ-2.**

**Вершы, прысвечаныя "духоўнаму мору" — Дзвіне-Даўгаве, райнісаўскаму пабрацімству, пераклады з латышскай мовы і на латышскую, а таксама на нямецкую прагучалі на літаратурнай сустрэчы, якую вёў старшыня Віцебскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Франц Сіўко. Разам з госцяй з Даўгаўпілса паэтэсай Алай Львовай, Давідам Сімановічам, Анатолем Канапелькам, Сяргеем Панізнікам, Уладзімірам Папковічам у паэтычных перазовах прынялі ўдзел і супрацоўнікі консульства Латвійскай Рэспублікі ў Віцебску.**

**С. ПАПАР**

## *Бонскае біенале адзначае беларусаў*

**Тры гады назад спектакль па п'есе Алены Паповай "Улюбёнцы лёсу" Рускага драматычнага тэатра імя Горкага быў паказаны на Бонскім тэатральным фестывалі і стаўся там сенсацыяй. З таго часу беларускае тэатральнае мастацтва знаходзіцца пад пастаяннай увагай гэтага прэстыжнага ў Еўропе біенале, якое распачалося з ініцыятывы і натхнення вядомага нямецкага драматурга Танкрэда Дорста і вось ужо дзесяцігоддзе праходзіць у пастаянным пошуку таго, што называецца "Новая драма Еўропы". За гэтыя гады ў Боне, былой сталіцы ФРГ, прайшло нямала спектакляў, якія вызначылі сапраўдны спектр сучаснай еўрапейскай драматургіі.**

**З таго часу як спектакль "Улюбёнцы лёсу", пастаўлены рэжысёрам Віталем Баркоўскім, займеў поспех на біенале (дарэчы, колішні пасол Германіі ў РБ Х. Вінкельман знайшоў час, каб у Боне пасля спектакля зайсці за кулісы і павіншаваць акцёраў і ўвесь калектыў), драматург Алена Папова адчувае ўвагу нямецкіх аматараў яго Вялікасці Тэатра. Так, пазалетась яна ездзіла ў Бон як патрон — каардынатар фестывалю, а сёлета па яе рэкамендацыі дырэктар біенале Манфрэд Байльгарц прыехаў праглядзець чатыры беларускія спектаклі. Замежны госць даў добрую ацэнку ўсім, хто рабіў гэтыя спектаклі, і ў кожным з іх знайшоў нешта сваё, адметнае. Ён адзначыў, у прыватнасці, цікавыя акцёрскія работы Т. Мархель і Л. Сідаркевіч у спектаклі па п'есе М. Рудкоўскага "Жанчыны Бергмана", а таксама ўдалы дэбют маладога драматурга. У спектаклі "Адэль", пастаўленым М. Дудзіным па Я. Таганаву, М. Байльгарц вызначыў жывую інтанацыю і агульную атмасферу.**

**Важна, што Тэатр нацыянальнай драматургіі, дзе "нарадзіліся" абодва спектаклі, працягвае традыцыю, удала распачатую Валерыем Мазынскім — шукаць творы сучасных драматургаў і працаваць над імі.**

**У "Поле бітвы" па п'есе С. Бартохавай, пастаўленым В. Грыцэўскім, М. Байльгарц асабліва адзначыў мову і якасць драматургіі, а таксама рэжысёрскае рашэнне. Ацэнена і праца яшчэ аднаго рэжысёра — а менавіта Віталя Баркоўскага, які стварыў спектакль "Мадам Бон Шанс" па п'есе Драздова.**

**Што будзе выбрана для паказу ў Боне? Пакажа час. Самае важнае, магчыма, тое, што беларускія тэатральныя творцы адчуваюць зацікаўленасць іхняй працы і ўласную запатрабаванасць. А яшчэ яны разам са сваімі еўрапейскімі калегамі шукаюць той пульс часу, адчуўшы які, можна будзе гаварыць свету і пра Час, і пра сябе.**

**Я. ФЯДЗЮШЫН**

СУСТРЭЧЫ

# Там, дзе жыў Арфей...

***Кожная паездка пісьменніка па зямных прасторах — падзея, бо ў выніку нараджаюцца мастацкія творы, у якіх адлюстравана ўбачанае, пачутае, перажытае. Ну а калі паездка ўяўляе сабой не проста шлях за новымі ўражаннямі, а ўмацаванне сувязяў паміж дзвюма літаратурамі, дзвюма культурамі, калі ў выніку атрымаецца плён для ўсяго айчыннага прыгожага пісьменства —гэта сапраўды важкая падзея. Менавіта такім стала нядаўняе падарожжа старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў , пісьменніцы Вольгі Іпатавай па Балгарыі. Наш карэспандэнт сустрэўся з Вольгай Міхайлаўнай і пагаварыў з ёй пра ўражанні ад паездкі і яе плён.***

**— Акрамя агульнай высновы, што падарожжы для пісьменніцкай неспакойнай душы — неабходнасць, якія яшчэ былі афіцыйныя ці неафіцыйныя падставы для наведвання Балгарыі?**

— Паездка гэтая планавалася загадзя, ледзь не за год. І таму, хоць па часе яна заняла ўсяго тыдзень, але ён быў неверагодна насычаны. Галоўнай жа падставай і вынікам, як я лічу, было падпісанне дамовы аб супрацоўніцтве паміж пісьменніцкімі саюзамі Беларусі і Балгарыі. З балгарскага боку дамову падпісаў старшыня Саюза пісьменнікаў Балгарыі Нікола Радзеў. Дамова прадугледжвае магчымасць агульных акцый, а таксама абмен раз на год дэлегацыямі. Як мы адзначылі, не больш чатырох-пяці чалавек у складзе дэлегацыі — у цяперашні складаны час літаратарскія арганізацыі не надта багатыя. Дамовіліся аб абмене інфармацыяй пісьменніцкімі газетамі — нашай "Літаратурай і мастацтвам" і "Български писател". Размова вялася і пра становішча нашых прафесійных саюзаў. Балгарскі пісьменніцкі саюз мае свой будынак, і не адзін. Мае магчымасць атрымліваць даход ад здачы памяшканняў у арэнду.

**— Значыць, мы можам пазайздросціць нашым балгарскім калегам?**

— Ды не сказала б. Сродкаў не хапае і ў іх. Даводзіцца шукаць спонсараў. А што тычыць кнігавыдання, дык мне там паведамілі, што ні ў адной краіне ў свеце не выдаецца столькі балгарскай літаратуры, акрамя, вядома, самой Балгарыі, — як у Беларусі. Традыцыя перакладу твораў балгарскага прыгожага пісьменства на Беларусі вельмі даўняя. На старажытнай Полаччыне і Тураўскай зямлі нашы продкі чыталі царкоўна-дыдактычныя творы Клімента Ахрыдскага, Канстанціна Прэслаўскага, Іаана Экзарха, Казьмы Прасвітэра. Вучань балгарскага пісьменніка і багаслова Яўхімія Тарноўскага Рыгор Цамблак у XIV стагоддзі прызначаны Навагрудскім мітрапалітам. Выходзілі ў нас кніжкі класікаў балгарскай літаратуры Хрыста Боцева, Івана Вазава, Пенча Салавейкава. Шмат перакладаліся і сучасныя празаікі і паэты, у многім дзякуючы Нілу Гілевічу — Любамір Леўчаў, Найдзен Вылчаў, Нікола Радзеў. Працуе над перакладам кнігі А. Дончава наш Уладзімір Аніськовіч. У 1998 годзе часопіс "Полымя" пазнаёміў беларусаў з творамі дваццаці балгарскіх літаратараў... Усяго не пералічыш. Другая важная падзея паездкі — прэзентацыя кнігі Найдзена Вылчава "Мой беларускі сшытак", якая летась выйшла ў выдавецтве Беллітфонду. Вечар пачаўся з верша Яўгеніі Янішчыц, які прачытала Аксана Бубнава, саветнік беларускага пасольства. Чытаў свае пераклады беларускіх паэтаў і сам Найдзен Вылчаў. Аўдыторыя ўспрымала іх вельмі цёпла, шчыра, некаторыя з прысутных дзве гадзіны стаялі ў праходах, бо не было вольных месцаў. А пасля мы разам з беларускім паслом у Балгарыі Аляксандрам Пятровым, саветнікам пасольства Уладзімірам Грыдзюшкам і пісьменнікамі Найдзенам Вылчавым і Стэфанам Паптоневым адправіліся ў падарожжа па Балгарыі. Найперш наведалі горад Враца, дзе адбыліся стварэнне Врацаўскага аддзялення таварыства дружбы "Беларусь—Балгарыя"і цікавая літаратурная вечарына. Вечарына праходзіла ва унікальным музеі. Там захоўваецца фракійскі скарб з Рагозена — сто шэсцьдзесят пяць срэбных прадметаў. Гэта такая старажытнасць, што цяжка ўявіць — больш за дваццаць чатыры стагоддзі да нашай эры! Дырэктар музея распавёў, што гэтыя прадметы хацеў забраць музей Сафіі. Але ў абшчыне Враца палічылі, што яны павінны захоўвацца там, дзе былі знойдзеныя. І дамагліся свайго.

**— Сапраўды, цяжка ўявіць, што прадметамі такой каштоўнасці — і гістарычнай, і матэрыяльнай, валодае раённы музей... У нас звыкла ўспрымаецца, што ўсё вартае канцэнтруецца ў сталіцы...**

— Дарэчы, у Врацаўскім музеі мне паказалі вянок з залатых лісткоў. Настолькі тонкіх, што нават калі няма ветру, яны звіняць. Менавіта такі вянок я ўяўляла на галаве гераіні свайго рамана — жрыцы. І вось пабачыла яго на свае вочы...

**— А памераць вам яго не далі?**

— Я не прасіла аб гэтым, але ажыццявіць такое жаданне цяжка. Хаця музей знаходзіцца ў маленькім гарадку, у глыбінцы, але абсталяваны ён па апошнім слове тэхнікі. Дырэктар з гонарам паведаміў, што кожная з вітрынаў, у якой размешчаны экспанаты, каштуе дзевяць тысяч долараў. Залаты вянок захоўваецца ў такой зашклёнай вітрыне, ды яшчэ пад пільнымі позіркамі двух ахоўнікаў. Такія рэчы я бачыла толькі ў музеях самага высокага класа, у найвялікшых гарадах свету.

**— Напэўна, не толькі ў гэтым раённым балгарскім музеі маюцца падобныя каштоўнасці?**

— Балгарыя ўвогуле найбагатая краіна на культурную спадчыну. Але шануе і культуру брацкіх народаў. У тым жа музеі ёсць зала лаўрэатаў міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева. Там вісіць партрэт Ніла Гілевіча. Было вельмі сімвалічна, што на ніжнім паверсе ў час літаратурнай вечарыны, якая ўвечары адбылася тут жа ў музеі, гучалі вершы нашага народнага паэта, а на верхнім быў яго партрэт. Абшчына, дзе знаходзіцца музей, звязана з імем Хрыста Боцева. Мы усклалі кветкі да яго помніка. Ездзілі ў горы, дзе ён загінуў яшчэ маладым, змагаючыся за незалежнасць сваёй краіны. Там вялікі мемарыял, капліčка... Для Балгарыі гэта — святое месца. І мне назаўсёды запомнілася, як мы там былі, і якой ірэальна-казачнай была навакольная прырода — першыя замаразкі, шэрань на галінках, кветкі шыпшыны і глогу — у ледзяных шарыках...

**— Што яшчэ найбольш запомнілася ?**

— Паездка ў г. Клісура, дзе адбылося Свята



Бульбы. Яго ладзяць у самай старой хаце , якая ацалела пасля знішчэння астатніх туркамі. Бульба прадстаўленая ва ўсемагчымых выглядах. І стравы, і вырабы... Напрыклад, была кніжка, зробленая з бульбянога пюрэ. На старонках — вершы Хрыста Боцева, і тыя старонкі можна было нават гартаць. Іншыя стравы елі, а вось гэтую кніжку ніхто не наважыўся... Астатняе — і паравозікі, і вожыкі з бульбы, і гадзіннікі — было бязлітасна з'едзена, бо ўсё было надта ж смачна. Там нам паказалі яшчэ адзін прадмет, выраблены з нетрадыцыйнага матэрыялу — гармату з чарэшневага дрэва. Гэтай гарматай палохалі туркаў — у паўстанцаў не было зброі.

**— Акрамя літаратурных, грамадскіх сустрэч, ці былі навуковыя, літаратуразнаўчыя імпрэзы?**

— Я чытала лекцыю ў Сафійскім універсітэце аб беларускай літаратуры. Звесткі аб тэндэнцыях у нашай паэзіі і прозе ўспрыняліся з вялікай цікавасцю. Бо калі пра старэйшае пакаленне беларускіх пісьменнікаў у Балгарыі яшчэ ведаюць, то пра сярэдняе пакаленне не ведаюць амаль нічога.

**— А ці добра ведаюць у Балгарыі ўвогуле пра нашу краіну, пра яе культуру?**

— На жаль, не. У Карлава мы прысутнічалі на адкрыцці плошчы "Баранавічы" — у гонар нашага беларускага горада. На цырымоніі прысутнічалі тры дзяўчыны ў нацыянальных касцюмах — рускім, балгарскім і чамусьці ўкраінскім. Калі я спытала, чаму няма такой жа прыгажуні ў беларускім касцюме, мне адказалі: "Мы ўспрымаем вас, як рускіх". Я запярэчыла: "А калі б мы сказалі, што не адрозніваем вас ад сербаў, як бы вы ўспрынялі такі пасаж?" Але не хацелася псаваць агульны святочны настрой, і я толькі паабяцала, што папрашу, каб з нашага Міністэрства культуры прыслалі ім беларускі касцюм. Хаця, вядома, выпадак прыкры.

**— Ці сустракаліся вы ў Балгарыі з нашымі суайчыннікамі?**

— Мы бачыліся з беларускімі дзецьмі з аздараўленчай базавай школы ў Велінградзе, якая створаная дзякуючы фонду "Мы — дзецям" і асабіста яго прэзідэнту Уладзіміру Грыдзюшку. Літаратурны вечар разам з велінградскімі паэтамі , які адбыўся ў гэтай школе, быў цудоўным: дзеці чыталі і свае вершы, задавалі пытанні, а пасля на канцэрце спявалі і таньчылі. Унук Міколы Купрэева паказаў у гэтым сапраўдны міжнародны ўзровень — ён дыпламант многіх конкурсаў. Вяла праграму дырэктар Надзея Лялькоўская, вельмі прыгожая і абаяльная настаўніца гісторыі. Дзеці прыязджаюць у школу пастаянна — за дзесяць год там прайшлі курсы лячэння амаль 15 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак з Беларусі. Не магу не згадаць Марыю і Івана Станчавых, цудоўных людзей, у доме якіх селяцца нашы дзеці. Велінград называюць горадам сямідзесяці сямі крыніц. Яшчэ рымскія імператары рабілі там свае купальні. Непадалёк , у Хісары — дом творчасці балгарскіх пісьменнікаў, амаль ушчыльную да старажытных рымскіх руінаў. Але, як і нашы пісьменнікі, балгарскія не часта ездзяць у свой дом творчасці, бо гэта і там не бясплатна.

**— У кожным падарожжы мусяць быць не толькі знаёмствы з вядомымі ўсяму свету адметнасцямі, але і таямніцы...**

— Адно з самых моцных уражанняў , гэта тое, калі дзякуючы паслу Беларусі ў Балгарыі Аляксандру Пятрову, знаўцу фракійскай культуры, мы пабывалі ў нядаўна раскапаным свяцілішчы ў Стараселе, куды могуць патрапіць пакуль нямногія. Калісьці там адбываліся антычныя містэрыі. Бо гэта, па сутнасці, радзіма Арфея, які, як вядома, быў фракійцам з Радопскіх гор. А загадка фракійцаў яшчэ не разгаданая, у прыватнасці, сувязь іх з нашай краінай. Згадаю хаця б знак конніка, які сустракаецца там паўсюль — на камянях, на прадметах побыту, і мае вялікае падабенства з нашай Пагоняй, а таксама імёны фракійцаў на надмагіллях — Скор, Мікула, Уна (юная)...

**— Але ж Балгарыя не толькі месца старажытных культаў, але і краіна з даўнімі хрысціянскімі традыцыямі...**

— Так, і мяне вельмі ўразіла наведванне старажытных манастыроў. Менавіта манастыры ў цяжкія часы захавалі пісьменнасць і духоўную культуру балгарскага народа. Калі ішло суцэльнае атурэчванне, манастыры былі апірышчам нацыянальнага супраціўлення. Я ведала пра цяжкую барацьбу балгар супраць асманскага панавання, але толькі ўбачыўшы сведчанні яе на месцы, змагла асэнсаваць значэнне і веліч гэтай барацьбы. Вось маленькая цэркаўка, дзе на два метры ад зямлі адбітая тынкоўка... Яе адбілі асманы, каб схаваць сляды злачынстваў — бо ў тым будынку амаль на два метры стаяла кроў бязвінных ахвяраў. Там забілі дзве тысячы чалавек. Калодзеж метраў паўтара глыбінёй — яго капалі ў каменнай скале жанчыны ўласнымі пазногцямі, бо іх дзеці паміралі ад смагі. І ўрэшце натрапілі на вялізарны камень, які жанчыны ўжо падняць не змаглі. І дзецям давалі піць кроў... Побач помнік князю — вестуну, які першы расказаў рускаму цару аб тым, што робяць з балгарскімі хрысціянамі. Але хаця ўся Еўропа абуралася зверствамі заваёўнікаў, і Віктор Гюго выступаў з палымянай прамовай з гэтай нагоды ў французскім парламенце, ніхто не пайшоў на дапамогу балгарам, акрамя рускіх. Партрэты Гурко і Скобелева ёсць у кожным музеі. Спадзяюся, што балгарскія гісторыкі ўсё-ткі ідэнтыфікуюць тых беларусаў, што былі тады ў рускім вызваленчым войску, як беларусаў. Балгары вельмі здзівіліся, калі даведаліся ад мяне, што Гурко па паходжанні — беларус. Суадносіны хрысціянства і мусульманства для балгар — вельмі балючая тэма. І як многа значыла слова нацыянальнага паэта, таго ж Хрыста Боцева, у той час, калі яго суайчыннікі атурэчваліся, калі нацыя стамлялася змагацца за ўласнае існаванне...Руская царква вельмі дапамагала балгарам ва ўсе часы. І нават у часы Івана Жахлівага прысылаліся грошы ў Рыльскі манастыр, на ўтрыманне братоў-хрысціян. Таму ў Балгарыі вельмі выразна адчуваюць сябе славянамі. На ўсіх сустрэчах гучала, што мы, славяне, павінны трымацца адзін аднаго.

**— І ў маладога пакалення тое ж стаўленне? Ці моладзь усё-ткі "амерыканізуецца"?**

— Вядома, моладзь падпадае пад уплыў маскультуры. Але асноўная маса насельніцтва выступае ўсё-ткі супраць працэсу амерыканізацыі.

**— Якія будуць бліжэйшыя сумесныя праекты двух пісьменніцкіх саюзаў?**

— Велінград — горад-пабрацім нашага Маладзечна. Былы мэр Велінграда, паэт А.Аўрамаў, прапанаваў выпусціць агульны зборнік узаемных перакладаў паэтаў Велінграда і Маладзечна. У Балгарыі, на шчасце, будуць і надалей выходзіць кніжкі беларускіх паэтаў. У хуткім часе рыхтуецца выхад кнігі Сяргея Законнікава. Было вельмі кранальна, калі ў Велінградзе пачалі на памяць чытаць вершы Анатоля Грачанікава. Бываюць паездкі афіцыйныя, бываюць — для душы... Дык вось гэтая паездка была — для душы.

**— Дзякую за гутарку, Вольга Міхайлаўна.**

**Гутарыла Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

# Сем кілаграмаў грошай

## ПРА МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ РЭЧЫ І ПРАГМАТЫЧНЫЯ ПАЧУЦЦІ

*Я не люблю грошай. Але толькі яны могуць даць у нашым грамадстве хоць бы ўяўную свабоду. А свабода — гэта не нешта абстрактнае, гэта тое жыццё, пра якое ты марыш...*

**Барыс ПЯТРОВІЧ**

### Уводзіны ў прадмет

Некалі, у часы спарахнелай мінуўшчыны, хтосьці нахабны, жыццярадасна памахваючы каменнай сякерай, прымусіў кагосьці нясмелага (у каго сякера, як на грэх, зламалася) аддаць яму мамантавае сцягно. А ўзамен гэты хтосьці, захлынаючыся пераможным рогатам, "аддзячыў" прыніжанага ўшчэнт кагосьці першым, што патрапілася ў рукі. Скажам, хваёвай шышкай. Здаецца, так узніклі грошы.

Калі ж пакрыўджаны паскардзіўся на нахабніка, старэйшына племені хуценька навёў "справядлівасць". Абраў з асяроддзя самага дужага і прыдуркаватага, які сукаватым дручком увобмірг супакоіў і нахабнага, і нясмелага, беззваротна прысвоіўшы і сцягно, і шышку. Так пачалі зараджацца высакародныя і гуманныя прынцыпы падатковай інспекцыі. Так пачалі ўдасканальвацца таварна-грашовыя адносіны.

Але дужага і прыдуркаватага перамагла ўладная хітрасць. Сцягно катэгарычна захапаў старэйшына, паабяцаўшы таму, з дручком, пасаду свайго намесніка з паўнамоцтвамі міністра бяспекі і пячорнай эканомікі адначасова. Так пачалося будаўніцтва дзяржавы.

А шышку (ці ж шкада!) кінулі нягегламу бессякерніку, а каб не енчыў небарака, далі наўздагон дагістарычнай дубінай па дагістарычнай галаве. Так з'явіліся продкі сённяшніх інтэлігентаў-філосафаў...

### Колькі каштуе рубель?

Я не пра эканоміку, я пра жыццё, а значыць — пра грошы.

З сённяшняга ранку ў мяне гэткі элегічны настрой. Таму што часова адклаў убок журналісцкую барацьбу з чыстым аркушам паперы і заняўся настальгічнай арыфметыкай. Вось яе плён. Калі вам за сорак, то ў сярэдзіне 80-х вы атрымлівалі штомесяц дзесьці 130 паўнаважкіх савецкіх рублёў. У чым вымяралася іх вартасць? Па цвёрдым перакананні майго суседа, прафесійнага п'яніцы, — у колькасці набытай за заробак гарэлкі. Згаджаемся і прымаем як зыходнае. Дык вось, тады за месячную зарплату пры жаданні можна было купіць трыццаць адну з паловай пляшку "Сталічнай". Зараз пры заробку, скажам, у 200 тысяч беларускіх можна парадаваць сябе штомесяц амаль сотняй паўлітровак з гаючай вадкасцю. Прынамсі, сусед, як мне здаецца, так і робіць. Божухна, як мы файна жывём, калі мераць нацыянальны дабрабыт чаркамі, келіхамі і куфлямі! У параўнанні з брэжнеўскай застойнай эпохай у тры разы лепей і весялей! Што яшчэ, суайчыннікі, трэба?! Суседу — нічога. А вось шматдзетная жанчына (суседава жонка) чамусьці не надта радуецца, штодня пазіраючы на захмеленага гаспадара. Яна, дзівачка, ніяк не дацяміць, чаму дваццаць год таму магла купіць у месяц амаль 800 боханаў хлеба, а сёння — удвая менш. Яна, не разабраўшыся ў дыялектыцы нашага жыцця, не навучылася быць шчаслівай. Каб быць шчаслівым на Беларусі, трэба навучыцца атрымліваць асалоду ад кожнай драбязы. Прачнуўся без болю — радасць; не пазычыў ні ў кога тысячу-другую да авансу — шчасце; крутануўся, там-сям падхалтурыў, там-сям падрапаваў, здаў урэшце шклатару і ажыццявіў даўно задуманае, купіўшы новыя шкарпэткі, — грамадзянскі подзвіг, чарговая натужлівая перамога над сабой, якая і вылучае асобу з шэрага натоўпу няўмела-шчаслівых і непрыстасаваных! Вучыцеся быць шчаслівымі!

Згодны, усё пад гэтым сонейкам адноснае. Камусьці, каб выкупіць уяўную волю, хапае трыццаці манет. А хтосьці і за мільён не можа пазбавіцца ад пажыццёвага бразгату ўласных кайданоў.

З замілаваннем і пачуццём глыбокага патрыятызму праслухаў днямі па "Маяку" ўрывак нейкай спартовай радыёперадачы. Беларускі гімнаст, пераконваючы слухачоў у жыццяздольнасці сваёй алімпійскай каманды, усё растлумачыў проста. Маўляў, мы, у залежнасці ад займаемых месцаў, атрымліваем у месяц ад 500 да 700 долараў, таму і б'ём рэкорды на злом галавы. Маўляў, грошы хоць і не надта важкія, але пры невялікіх беларускіх цэнах на прадукты і тавары таксяк пражыць можна. Вельмі захацелася зазірнуць гімнасту ў вочы. Каб наталіцца пачуццём уласнай запатрабаванасці і шматзначнасці. Каб хоць на хвілю перахапіць позірк упэўненага чалавека, праца якога па заслугах аддзячана дзяржавай. Моцна захацелася гэтага, бо ў свой час у выцвілых вачах бабкі Мар'і, якая сорак год даіла калгасных кароў, я нічога падобнага ніколі не бачыў. А яна ж таксама за свой век ох як багата пабіла рэкордаў! І ферма на ёй трымалася, і па хатняй гаспадарцы гэтыя з маладосці перакручаныя паралюшам рукі ўсё паспявалі. Але нічога я не заўважыў у выцвілых вачах бабкі Мар'і. Ёй бы зараз тыя 500-700 долараў у месяц. На, трымай, як знак пашаны! Даруй, гэтага мала, але будзь гордай, як сцяг, бо ты карміла гэтую дзяржаву, ты, працуючы на знос, не дала яе ў згубу! Мо тады б і засвяціліся яе вочы? Але памерла перадавая даярка, пераможца шматлікіх сацыялістычных спаборніцтваў, знесла ў магілу лютую нянавісць да жабрацка-калгаснага ладу жыцця. Толькі ганаровыя граматы на сценах вясковай хаты й засталіся...

Не думайце пра мяне кепска. Я ведаю, што лічыць чужыя грошы — справа невысакародная. Гэтым і без мяне вельмі ўважліва і вельмі дыферэнцыравана займаюцца штомесяц дзесьці наверсе тыя, каму гэта прызначана. Яны, напэўна, цудоўна арыентуюцца ў дэнамінацыях, эмісіях і інфляцыях. Яны мо нават ведаюць, што такое дэфолт. Яны, відаць, доўга гэтаму вучыліся і, не выключана магчымасць, не дарма ядуць свой хлеб. Бог з імі. Я ж папросту хачу разабрацца, што ж гэта за рэч такая — беларускі рубель (даруйце, тысяча!). Рэпрадукцыя суперпапулярнай карціны Хруцкага ці стабільная мера кошту, сродак гарантаванай і справядлівай аплаты працоўнай дзейнасці кожнага грамадзяніна рэспублікі?..

Калісьці за лімаўскі ганарар можна было купіць тэлевізар. Зараз — хіба што кніжку ў бліскучай вокладцы пад шматзначным назовам "Як стаць багатым". Відавочна, пісаць не сталі горш. Проста з цягам часу штосьці закапрызіла ў сістэме матэрыяльнага забеспячэння і заахвочвання нашых неўтаймаваных патрэб.

Не, я не ствараю па начах маніфест капіталістычнай партыі, не, мне не мроіцца прывід бадзяжнага капіталізму ў цэнтры Еўропы. Але, хоць напалову і савецкі, не агітую за грашовую экспрапрыяцыю: забраць у спартоўцаў (барані Божа, пакваліцца на святое!), чыноўнікаў і прадпрымальнікаў, падзяліўшы паміж настаўнікамі, пісьменнікамі і мастакамі. Не! Карціць іншае. Напрыклад, зразумець, чаму інжынер нежыццяздольнага і амаль прастойваючага завода атрымлівае ўдвая больш за настаўніка, знясіленага ледзь не катаржнай працай; чаму самы танны прадукт на сёння — кепская гарэлка, а розум, сумленне і прафесіяналізм без бою саступаюць нахабству, абыякавасці і неспрактыкаванасці. Відаць, камусьці вельмі выгадна, што большасці насельнікаў Беларусі сёння хранічна не стае грошай на набыццё няхай і ўяўнай, але волі. Заробленага ледзь хапае на хлеб, сала і кепскую гарэлку. Не робім, а зарабляем, не жывём, а выжываем.

Не, маніфест капіталістычнай партыі не пішу. Моцна вабіць, узяўшы на ўзбраенне вопыт Брэма і Кіплінга, стварыць гэткую "Казку джунгляў", дзе паказаць не жывёльны свет, а свет людзей. Свет, дзе між балотных купін спрадвечнай беларускай дрыгвы хтосьці кагосьці пастаянна спрабуе на смак, дзе пахне крывёю і мерцвячынаю. Але літаратурная мара разабрацца ў таямніцах натуральнага адбору застаецца неажыццёўленай, бо ў гэтай іерархіі відаў, класаў, груп галодных і сытых вельмі страшна адшукаць месца для сябе. Хто я — воўк ці заяц, вол ці зубр, "тварь дрожащая" ці чалавек? Няўжо ўсяго пакрысе?..

Калі выкладаў літаратуру ў школе і разбіраўся з вучнямі ў хітрасплятаннях "Трэцяга пакалення" Кузьмы Чорнага, ледзь не вар'яцеў ад пастаяннага пытання хітрых старшакласнікаў: "А вы б, Яўген Мікалаевіч, тыя грошы, якія Тварыцкі ў лесе знайшоў ды прысвоіў, на яго месцы дзяржаве б аддалі?"

Дык колькі каштуе загадкавы беларускі рубель? Яшчэ адно пытанне з шэрагу вар'яцкіх. І адказ адпаведны: паўнавартаснасць запалоханага беларускага "зайчыка", вядома ж, залежыць ад паўнавартасці беларускай свядомасці.

Хтосьці з паляўнічых расказваў: толькі тады вушасты да апошняга за жыццё змагаецца, калі яго ў кут загнаць...

### "Калі б я быў мільярдэрам..."

"Грошай не бывае шмат". "Шчасце не ў грашах, а ў іх колькасці". "Грошы — гной, сёння пуста, а заўтра — гарой". "Беражы палцінку на ліхую гадзінку..." Працягваць можна бясконца. Прымавак пра грошы больш, чым пра працу. Усё натуральна. Нават Зошчанка ў сваёй знакамітай "Блакітнай кнізе" пра гісторыю чалавецтва раздзел "Грошы" паставіў перад раздзелам "Каханне". Ён меў рацыю. І не памыліўся, відаць, бацька Коласа, які аддзячыў першую паэтычную сынаву спробу рублём. І невядома, якім бы шляхам пайшла наша літаратура, калі б не гэты заслужаны і своечасовы коласаўскі ганарар... Так, грошы павінны быць, каб на іх не зважаць. Так, грошы — вынік сумленнага і высокапрафесійнага ўнёску кожнага ў агульную справу ўзбагачэння матэрыяльнай і духоўнай культуры. Калі гэта не так, штосьці трэба неадкладна мяняць. У дзяржаве, эканоміцы, у разуменні таго, што мы называем сэнсам жыцця. Інакш дрыгва засмокча па макаўку...

З затоенай цікаўнасцю сачу за расійскімі тэлегульнямі. Не палітычнымі, ад якіх ужо ванітуе. За сапраўднымі інтэлектуальнымі кшталту "Што? Дзе? Калі?" ці "Свая гульня" (не блытаць з "Полем цудаў"). Не ведаю, чым яны падабаюцца. Мо тым, што тут сапраўды перамагае розум, а самы дасведчаны і кемлівы атрымлівае важкі прыз. "На кану сем кілаграмаў грошай!" — радасна абвяшчае вядучы. І пачынаецца спаборніцтва інтэлектаў. Так, ведаю, галавастых у былым Саюзе шмат (хоць і бягуць за мяжу, як атручаныя прусакі), тэлегульняў на ўсіх не хопіць, хоць і ідуць яны зараз ледзь не на кожным канале. А таму мроіцца нешта досыць утапічнае: вось ты, сярод натоўпу, калі не прайдзісвет, калі разумны, шчыры і працуеш як мае быць на Беларусь — на табе сем кілаграмаў грошай! Калі дбаеш пра роднае, не грэбуеш матчыным і ведаеш, што і як рабіць, каб не здрадзіць сумленню — на! Не ў якасці выпадковай ці выключнай узнагароды, не для таго, каб вылучыць лепшага з горшых, а проста таму, што заслужыў. На — і не ламай галаву, чым накарміць сям'ю, як разлічыцца з даўгамі і заплаціць за кватэру. На — і не думай пра іх, гэтыя зашмальцаваныя паперкі са шматлікімі нулямі. На — і пішы, малюй, ствара́й, вучы, будуй, дай, бі спартовыя рэкорды. Грошы ж патрэбны толькі для таго, каб на іх не зважаць! Калі ўсё наадварот, жыццё губляе сэнс. Калі ўсё наадварот, ты не робіш, а зарабляеш, ты не творца, а рамеснік, які ўжо не вагаецца ў выбары паміж дарагім хлебам і таннай гарэлкай...

Калі ты разумны, дык чаму такі бедны? Я б з радасцю прыняў на веру катэгарычнасць гэтага выказвання, калі б не бачыў наўкола процьму багатых дурняў. Калі ты разумны, значыць, пад сумнеў усё бярэш, значыць, сумленне ўласнае ашчаджаеш, не столькі грашыш, колькі каешся, а таму не пойдзеш па галовах, не ўчэпішся ў горла, не атрымаеш асалоды ад хрумсту чужых костак. І дзяцей уласных да гэтага прывучыш. Так што, спадар разумны, бедным ды няўдалым застанешся, калі розум у хцівую хітрамудрасць не трансфармуеш. А багатым ніколі не позна стаць. З барацьбітоў за волю ў здраднікі і ў шэсцьдзесят можна пераўтварыцца. Як, зрэшты, і ў дваццаць...

Калісьці даў сваім вучням не вельмі хрэстаматыйную тэму для класнага сачынення: "Калі б я быў мільярдэрам". Ох, пагналі б мяне за савецкім часам са школы! А зараз нічога. Справа нармалёвая, нат рэалістычная ў нейкім сэнсе. Сапраўды, не пра паўлікаў жа марозавых сённяшнім вучням пісаць. Іншыя ў іх куміры зараз — ракфелеры ды крэзы. Дык вось, пабурчэлі крыху ды за асадкі ўзяліся. Хто ўладальнікам шыкоўнай вілы сябе ўявіў, хто пра кіраўніцтва буйной бізнесовай кампаніі з густам памарыў. Пра матэрыяльную падтрымку родных, сваякоў і сяброў ніводзін не забыўся. Як і пра фундатарства мовы беларускай ды культуры (відаць, у настаўніцкі бок адчапнога). Хтосьці вырашыў на рэшткі мільёнаў прытулак для бадзяжных сабакаў усталяваць, хтось за прымусовую рэанімацыю нашай эканомікі ўзяўся, маўляў, няхай жа ўрэшце яна і на беларусаў папрацуе (дай вам Бог, даражэнькія, здароўя моцнага на ажыццяўленне вашых мараў!). А вывад усе шэсцьдзесят творцаў-адзінаццацікласнікаў зрабілі ў сваіх творах ледзь не аднолькавы: вялікія грошы на Беларусі зарабіць сумленна проста немагчыма! А хто абвергне?

Гаварыў я аднойчы з сапраўды заможным чалавекам, бадай, адным з самых багатых на Беларусі прадпрымальнікаў. Да газетнага інтэрв'ю справа, на жаль, не дайшла (у гаворцы мы заўжды адчайныя, у канкрэтных справах — не вельмі). Але шмат чаго павучальнага той нараспавядаў.

— Ты ведаеш, ад чаго па начах у халодным поце вялікі комік Чаплін падхопліваўся? А чалавек жа ў сталых гадах заможны быў, грашовы... Ад аднаго і таго ж жахлівага сну прачынаўся: мроілася яму, быццам бедным стаў! Не паверыш, і я па той жа прычыне пакутую страшэнна. Сёння — поўны кашалёк, а заўтра — не дай Бог, у жабракі! А ўсё ж, ведаеш, уласным потам нажыта, уласным мазалём. Не дасыпаючы, не даядаючы! Ледзь не кожнага чыноўніка ды падатковага інспектара з уласнае рукі прыкормліваў. А гарантый усё роўна аніякіх. Так што заўтрашняга дня, як агню, баюся!..

На Беларусі без стомы енчаць не толькі жабракі, не саступаюць ім і багатыя. Не зайздрошчу я і ім. Занадта небяспечная ды мулкая ношка. Гэта ў Расіі ў адпаведных рэйтынгах і прэстыжных спісах людзей нябедных не-не дый прамільгнуць самаўпэўненыя Чубайс, Лужкоў ды Чарнамырдзін. Хто палітык? Хто крымінальнік? У Расіі патроху "дапялі" і да разумення гэтых жыццёва важных пытанняў. У нас пакуль — не.

Але шчаслівых на Беларусі хапае. Вунь, гляньце, пабег. Задаволены і чырванашчокі. Ад яго патыхае балотам, ён толькі што кагосьці са смакам пракаўтнуў і з задавальненнем пачаў пераварваць. Сыты, жвавы і вясёлы. Вы здагадаліся, колькі яму заплацілі?

...Сем кілаграмаў грошай...

### Замест заключэння

Мы самі вырашылі застацца беднымі. Нас ніхто не прымушаў. Нам з гатоўнасцю пайшлі насустрач. Нават з радасцю і цеплынёй. І гэта па-чалавечы вельмі зразумела. У абдымках лягчэй душыць. Але не ўсё, спадарове, так песімістычна. Грошы ніхто не адмяніў. Ёсць яны на Беларусі, ёсць, і, паміж намі, беларусамі, у надта дастатковай колькасці. Проста трэба ўмець з імі абарачацца. Трэба вучыцца быць шчаслівымі, жвавымі і вясёлымі. Каб, да прыкладу, вось так не атрымалася. Жыла ў забытай Богам палескай вёсачцы бабуля адзінокая. Так сабе жыла, па-жабрацку. Вадой з хлебам перабівалася. Быццам і пенсія неблагая — аж сорак тысяч за ўдарную калгасную маладосць, але па вёсцы зашмальцаваная ды галодная сноўдалася. І куды тыя тысячы траціла, бо ж ні сыноў, ні ўнукаў? За вар'ятку лічылі. Мо такой і была? А калі незаўважна памерла і гнілую хаціну пачалі раскідваць, ватоўку на гарышчы знайшлі, зношаную ўшчэнт, бабульчыну. Занадта цяжкая здалася. Глянулі — а там грошы зашытыя. Новенькія беларускія тысячы. Падлічылі — шмат. Але да сямі кілаграмаў так і не дацягнула, бядачка. Волі так і не купіла. Жыцця не хапіла. Што возьмеш з вар'яткі! А на месцы хацінкі, кажуць, балота ўтварылася. Людзі туды і днём не ходзяць. Страшна.

**Яўген РАГІН**

## ЛіМ ЧАСАПІС

### “Удог”



**Назву новай кнігі Франца Сіўко, выпушчанай у “Беллітфондзе” дала аднайменная аповесць. Гэты твор, як і наступная аповесць “Голас”, што з'яўляецца ў пэўнай меры як бы працягам папярэдняй, трывожны роздум пісьменніка над лёсам Бацькаўшчыны. Паміж аповесцямі ёсць цэментуючая аснова — загадкавая расліна пад назвай удог, якая здатная так паўплываць на чалавека, што ён перастае быць самім сабой: “Дрэўца гэтае незвычайнае. Ягад як паясі, дык абы-што будзеш рабіць. Пітво таксама можна гатаваць”. І знаходзіліся тыя, хто ахвочы быў пакарыстацца ўдогам у сваіх карыслівых мэтах. А пачатак усяму быў пакладзены яшчэ ў 1831 годзе, з якога і пачынае разгортвацца дзеянне ў аповесці “Удог”. Дарэчы, хранікальнасці Ф. Сіўко прытрымліваецца на працягу ўсяго твора: 1831—1960—1965—1966—1972... “Завязка” ж адбываецца менавіта ў 1831, калі, як няцяжка здагадацца, адбылося адно з паўстанняў супраць рускага царызму, вялася барацьба “за нашу і вашу свабоду”. Пісьменнік расказвае пра групу касіянераў з 14 чалавек, якія спыніліся на пастой у адной з беларускіх вёсак. Зрабілі і добрую справу — адрамантавалі ў вёсцы школку. Настаўніца ў знак падзякі прапанавала ім самаробнага пітва. Каятан Аўласевіч, які быў за старэйшага. Западозрыў нядобрае, але настаўніца разумна заявіла: “Не верыце — першая вып'ю”. Паверылі... Яна пакідала вёску, калі “з... хаты ўжо даносіліся спевы... Сэрца Пелагіена зайшлося нянавісцю. Каб яны паздыхалі! Колькі ты іх ні вучы людскай мове, як аб сцяну гарох. Як ёй усё абрыдзела ў гэтым чужым, незразумелым краі! Але ж неяк будзе, нездарма кажуць: вада і камень точыць. Зараз галоўнае — пра ўцёкі падумаць. Пакуль не спахапіліся”.**

**Паўстанцы ж, выпіўшы пітва, быццам звар'яцелі: “змясіўшы дарэшты глебу на дзядзінцы, яны ўзяліся нішчыць кустоўе. Ледзь-ледзь набрынялыя пупырышкамі кусцікі ружаў, язміну, бэзу бездапаможна валіліся ніцма пад ударамі косаў, бязжаласна ўтоптваліся ў гразь”. І толькі ўдог у гэтай калатнечы ўцалеў, нібыта нічога і не здарылася.**

**Удог у аповесці — увасабленне таго страшнага, што ўспрымаецца нейкім наканаваннем. Аднак за гэтай наканаванасцю ёсць і канкрэтная сіла — тыя, хто, жывучы на беларускай зямлі, не любяць яе. Воляй лёсу апынуўшыся тут, яны на ўсё жыццё засталіся прышлымі. Да ўсяго надзіва агрэсіўнымі ў сваёй напорыстасці, у непрыманні мясцовых звычаяў, у пагардлівым стаўленні да беларускай мовы. Пачынаючы ад Пелагеі, якая хацела атруціць паўстанцаў, атрымліваецца свайго роду ланцуг пагардлівага ўспрымання беларусаў. З пакалення ў пакаленне чужакі перадаюць гэтую нянавісць. Больш таго, з цягам часу становяцца яшчэ больш агрэсіўнымі. Калі напачатку дзейнічаюць цішком, як тыя злачынцы, дык паступова не хаваюць сваіх поглядаў. Замахваюцца на самае святое і, як гэта не прыкра, дамагаюцца свайго, бо знаходзяць аднадумцаў. І ў перайменаванні назвы вёскі, а ў выніку Дуброўка ператвараецца ў Падкрайна.**

**Ва “Удогу” моцныя публіцыстычныя матывы, але Ф. Сіўко, закранаючы вострыя, балючыя моманты ў жыцці грамадства, далёкі ад лабавога вырашэння гэтых праблем. Аповесць (як і “Голас”) чытаецца з неаслабнай цікавасцю. У сюжэтнай канве нямала адгалінаванняў ад асноўнага дзеяння, аднак яны не з'яўляюцца другаснымі, а добра працуюць на асноўную аўтарскую задуму. Разам з тым прысутнічае так званая ўнутраная публіцыстычнасць, выразна праступае тое галоўнае, што хоча сказаць (і гаворыць!) Ф. Сіўко. А думка гэтая заключаецца ў тым, што пазбавіцца пачуцця нацыянальнага нігілізму можна толькі пры ўмове, калі рашуча даваць адпор любым праяўленням непавагі да ўсяго беларускага.**

**Цікава чытаць і аповесці “Трое”, “Маціна дачка”, “Там, дзе найлепш”, “Боты сіньёра Паскуаліні”, “Чалавек з армянскім прозвішчам”. Шырокі ахоп тэм і ў апавяданнях. У “Выпадку на згоне зімы”, для прыкладу, па-свойму вырашаецца праблема стаўлення да злачынстваў, здзейсненых у гады сталінізму. “Ля схову”, “Пікет” — розныя аспекты нацыянальнай праблематыкі.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# Дарога, якая вядзе ў неба

Каму нецікава ўзяць у рукі акуратна і любоўна выдадзены томік выбранай паэзіі, пазнаёміцца з вершамі і паэмамі, якія змяшчаліся ў ранейшых зборніках паэта? Чытаючы выбранае, можна вызначыць: па-першае, наколькі самакрытычна падышоў аўтар да таго, што было надрукавана раней, і ці хапіла рашучасці адабраць самае таленавітае і адсеяць слабое і неабавязковае; па-другое, ці ўсе радкі і строфы вытрымалі выпрабаванне часам, і наколькі актуальна гучаць яны сягоння, пасля таго, як прайшло два ці тры дзесяткі гадоў, і патрэцяе, ці могуць зрабіць творы тое самае ўражанне на чытача, якое яны зрабілі калісьці?

Але перш, чым перачытваць вершы, што ўвайшлі ў кнігу выбраных твораў Сяргея Законнікава **“Лістам дарога запала”**, мы не можам не пазнаёміцца з прадмовай, напісанай народным паэтам Беларусі Пімедам Панчанкам. Ведаючы, што мінула недзе каля дзесяці гадоў, як Панчанкі няма сярод нас, можна меркаваць, што свае слова пра паэзію Сяргея Законнікава ён пісаў, магчыма, не да выбраных твораў маладзейшага калегі па пяры, а з нейкай іншай нагоды, і тым не менш, прадмова не страціла свайго значэння і сёння. “Адзін з самых таленавітых і шчырых паэтаў — Сяргей Законнікаў. Ён увесь у сучаснасці, у турботах нашых дзён”, — піша народны паэт. І ведаючы высокую патрабавальнасць Панчанкі як да сваіх твораў, так і да чужых, міжволі верыш, што сказана гэта не ў якасці кампліментарнага авансу ці з-за душэўнай далікатнасці і шчодрасці, а пасля ўзважанага падыходу і скрупулёзнага разгляду кожнага радка і слова паэта. І знаёмячыся з высокай ацэнкай, дадзенай майстрам і знаўцам паэтычнага радка, нельга не паверыць, што хай сабе не кожная страфа, не кожны верш, але большасць з іх забяспечана залатым запасам паэзіі. Такія паэты, як Панчанка, не стануць кідаць словы на вецер, гаварыць пахвалу ў адрас таго, хто не заслужыў яе.

З такімі думкамі мы паглыбляемся ў вершы з першай кніжкі Сяргея Законнікава “Рунь”, з якой ён узяў усяго чатыры творы. Дык пра што яны? “Зямля мая, ты для мяне, як дзіва, як першы дотык любае рукі, як у спякоту млосную ільдзінка, як на кашулі белай васількі”, — гаворыць паэт, і мы адзначаем, што і на самым пачатку творчасці Сяргей Законнікаў імкнецца да канкрэтных дэталяў, прадметных зрокавых вобразаў і параўнанняў. Уражвае гарачае пачуццё, высокая эмацыянальнасць і экспрэсіўнасць гучання радкоў. Але найбольшае ўздзеянне робяць вершы тады, калі паэт звяртаецца да сялянскага жыцця і побыту, гаворыць пра малых, якія “вогнішча, як птушкі акружылі”, дзе пячэцца бульба. І паэт заўважае, што яны “далоні бульбе падаюць”. Вось як! Не выкочваюць яе з прыску, а падаюць свае далоні. Паэт прымушае нас дзівіцца і захапляцца тым малюнкам, які мы бачылі ўсе, можа, сотні, тысячы разоў. “Развёў агloблі, нібы рукі, воз”. Здавалася б, адзін усяго вобраз, адна метафара, а як многа яна гаворыць пра паэта, яго творчую фантазію, ягонае бачанне свету! Па адным гэтым радку ўжо тады, на пачатку творчага шляху Сяргея Законнікава, можна было вызначыць, што мы маем справу з сапраўдным паэтам, і што яго чакаюць творчыя ўдачы і адкрыцці. Вядома, пры ўмове, што ён будзе шукаць, працаваць над сабой.

Першыя крокі ў паэзію Сяргей Законнікаў рабіў навобмацак, і перш, чым ступіць наперад, ён, здаецца, пільна прыглядаўся да мясціны, — ці трывалая яна, ці не праваліцца пад нагой. У яго вершах — падзіцячы чыстае і наіўнае здзіўленне гэтым светам, жаданне зразумець існасць жыцця. Паэт прызнаецца: “Я ніяк не прывыкну, што жыву на зямлі”. Тут перададзена тое незразумелае пачуццё, якое прыходзіць звычайна да падлетка ў пераломным узросце, калі пачынае не даваць спакою пакутнае пытанне: дзеля чаго мы прыйшлі на гэты свет? Дзеля чаго жывём? І лірычны герой пачынае шукаць сваё месца ў гэтым жыцці, задумвацца над тым, хто ён і што значыць, як асоба? У радках ледзь улоўная душэўная разгубленасць перад гэтым няпростым светам, і адначасова ўменне пранікаць у самыя аддаленыя куткі чалавечай псіхалогіі.

Сяргей Законнікаў піша: “У жалобе ля брацкай магілы, нібы маці, стаіць цішыня”. Тут яшчэ мала ўласнага жыццёвага вопыту, але колькі прагі і жадання далучыцца да трывог і перажывання іншых. Напорыста, упарта і плённа працуе аўтарская фантазія. Пра халады С. Законнікаў кажа, што яны ступаюць “няспешна і вуглавата”. Тое, што халады прыходзяць няспешна, здаецца, нікога не можа здзівіць, ні надта ўразіць. А вось тое, што яны ступаюць “вуглавата” і пры гэтым азначэнне пападае пад рыфму, што ўзмацняе яго сэнсавае значэнне і нагрузку, — завязь паэзіі. Ёсць вабнасць у няхітрых, але шчырых і даверлівых радках: “З цнатліваю ўсмешкай рабіна ўпала ў сон”. Тое самае можна сказаць і пра радкі: “Бы ясны твар жанчыны, твой ціхі сум, зямля”. Усё гэта ўбачанае пільным і вострым зрокам мастака, знаходзіць адпаведны водгук у душы чытачоў. Паэт перадае сваё душэўнае адчуванне ад судакранання з рэаліямі гэтага свету. Ён, гэты свет, выступае ў ролі крэсіва, а душа нагадвае сабой крэмень, з якога і сыплюцца іскры — буйныя, зыркія, агністыя. Бачна, што душа паэта жывая і гарачая, не хоча ведаць, што такое дрымота. Як гаварыў Пастэрнак, душа паэта працуе “и день и ночь, и день и ночь”. Гэта сведчыла, што да Сяргея Законнікава прыходзіла творчая сталасць.

І тым не менш, у вершах як бы адчуваецца незадаволенасць паэта самім сабой, сваім словам. Ён як бы імкнецца прабіцца праз нейкія перашкоды да самога сябе, да запаветнага слова, каб увасобіць у ім асабіста пражытае і перажытае. Але таго драматычнага, што глыбока і балюча параніла б душу паэта, дзякуй Богу, здаецца, яшчэ не было, а тое, што спадарожнічала ў маленстве, калі будучы паэт хадзіў у школу, а пасля вучыўся ва універсітэце ў Мінску, а потым працаваў у раёне, упісвалася ў звычайныя каардынаты паўсядзённага жыцця інтэлігента, і не давала адчувальнага штуршка, каб звярнуцца да нечага вострага, і нават трагічнага, што магло не толькі ўзрушыць, але і скалануць душу мастака. Ці не таму паэт і гаворыць: “Запамінаю кожны дзень, якім ён ёсць запамінаю — і сонца над зялёным гаем, і пад старою вішняй цень”. Што гэта? Душэўная абыякавасць і інфантыльнасць, прымірэнне з ціхамірнасцю і жыццёвай супакоенасцю? Ды не! Гэта ўсяго хвіліна, а, можа, і імгненне мінорнага адчування вечнасці, да якой трэба ўмець прыслухацца, каб адчуць яе хаду, як і хаду пясочнага гадзінніка. Недарэмна недзе ў сярэдзіне верша паэт заўважае, што ён запамінае ўсё, што праходзіць у яго перад вачамі па той прычыне, “нібыта гэты дзень апошні, апошні на календары”. І дададзім ад сябе, не толькі на календары, але, магчыма, і ў жыцці. Толькі ў такім стане чалавеку хочацца запомніць усё да апошняй драбніцы. Але хіба лірычны герой стаіць на парозе жахлівага расстання з гэтым светам? Вядома, не! У такім разе, дзеля чаго яму трэба помніць пражытае і перажытае? А для таго, каб параўноўваць сягонняшняе з учарашнім, не задавальняцца дасягнутым, імкнуцца да больш значнага і сур'ёзнага, да новых поспехаў і здабыткаў. Паэт папярэджвае:

*Не важна, хто ты — хлебароб, паэт,*
*Адно на ўсіх людзей зямное шчасце.*
*Галоўнае, які пакінеш след, —*
*Па ім ступаць далей твайму нашчадку.*

Падобныя выказванні можна было б палічыць банальнымі сентэнцыямі, калі б яны не былі падмацаваны паэтычнымі вобразамі і метафарамі, свежымі, арыгінальнымі і дакладнымі. Ну як можна адмовіць паэту ў прысутнасці ўсяго гэтага, калі ён гаворыць: “Я іду. Цалую ногі босыя травамі сасмяглымі зямля”. І далей: “З воблака-кудзелі цягне нітку рэактыўны — ўвішны павучок”. У такіх абставінах у паэта, здаецца, адпадае патрэба нагадваць сабе — не прапусціць ніводнае драбніцы. Хіба можа забыцца такі дзень, калі “ластаўкі снуюць над полем нізка, быццам хочуць сесці на плячо”, “і таму здаецца дзіўнай краскай лебяда на сцежцы палявой”. Ну хто можа сказаць, што лірычны герой бачыць свет у рожавым святле і тумане? Такі ў яго душэўны настрой, настолькі ён усхваляваны і ўлюбёны ў фарбы, адценні і прыгажосць усяго навакольнага.

Услед за гэтым паэт пачынае звяртацца да Сусвету, абжываць яго ў сваіх вершах, і не для таго, каб у іх з'явілася маштабнасць, касмічны размах. Аўтар як бы набліжае да ўсіх нас пяты акіян і ўсё тое, што маецца ў ім, бо палёты ў космас сталі звычайнай і будзённай з'явай. Ці не таму пра космас Сяргей Законнікаў гаворыць ёміста і метафарычна, не губляючы душэўнай цеплыні і пяшчоты: “Варухнецца, як дзіця, зямля ў сусвету вечнага пад сэрцам”. Да ўсяго аўтар не прамінае выпадку асвоіць касмічныя абсягі па-свойму, наблізіць да бытавых рэалій: “Ляціць Зямля — Сусвету прызба, і мы прад вечнасцю на ёй”. У іншым месцы паэт гаворыць: “Роснай галінкай чаромхі затрапятаў Млечны Шлях”. Маштабнасць не робіць вобразы сухімі, казённымі і пазбаўленымі эмацыянальнай афарбоўкі, экспрэсіўнасці і лірычнага пачатку. Паэт як бы ўводзіць Космас у кола свету, у якім мы жывём, знімае з яго арэол чагосьці недаступнага і недасягальнага, робіць блізкім.

Што тычыцца бытавых рэчаў і з'яў, Сяргей Законнікаў умее паказаць іх, высвеціць перад нашымі вачамі нейкімі такімі контурамі і гранямі, што яны не толькі прымаюць новыя абрысы і значэнне, але і зззяюць каштоўнымі камянямі. Ды часцей за ўсё і само мастацкае слова пачынае свяціцца, набываць такія рысы, нібы яно пабывала ў руках вопытнага гравёра, гэтак умеў абыходзіцца з ім чарадзей паэтычнага радка Анатоль Вялюгін. Ну каму не запомніцца вось гэты яркі малюнак:

***Малыя ля бабкі балбочуць,***
***Як цецеручкі на таку.***
***На лаўцы сядзяць крывабокай,***
***Што боб у зялёным струку.***

Карціна настолькі маляўнічая, шматфарбная і пластычная, што ад яе, здаецца, нельга адарваць вачэй. Тут усё на сваім месцы, — кожная рыска, кожны штрышок нясуць сваю адпаведную нагрузку. Іх нельга пераставіць. Страфа — прыклад таго, як трэба эканомна выкарыстоўваць плошчу верша, дзе няма пустот. У страфе вольнае і лёгкае дыханне, гарэзная і ў той жа час стрыманая інтанацыя. Лірычны герой, ад імя якога вядзецца аповед, прадстае перад намі, як мастак, што мае пільны і востры зрок, досціп і жыццёвы вопыт. Вобразы, створаныя пры дапамозе параўнанняў, не нясуць у сабе разнабою. Нельга не заўважыць, што нават звычайны прыметнік становіцца той мастацкай дэталлю, без якой страфа страціла б закончанасць і поліфанічнасць.

Дзеці сядзяць на лаўцы, як “боб у струку”, і не гамоняць, а “балбочуць”. Здавалася б, і вось гэтае, крыху грубаватае, слова, можа кепска паўздзейнічаць на інтанацыйны лад страфы. Але адбываецца адваротнае: у гэтым слове маецца нешта жыццёвае і праўдзівае, што і робіць гэты эскіз вабным і прыцягальным. Гэта яшчэ раз падцвярджае, што ўсё таленавітае — вельмі простае. Сапраўды, хіба ў страфе прысутнічае нешта неверагоднае?! Тут

тонкія назіранні і трапныя выслоўі, падслуханыя сярод людзей. Мастацкія дэталі па-кінематаграфічнаму канкрэтныя і зрокавыя, да іх, здаецца, можна дакрануцца рукой.

Да бясспрэчнай удачы Сяргея Законнікава трэба аднесці і невялічкі па сваім памеры верш "Прыляці, сініца ўдачы", які памайстэрству выканання, культуры радка, мастацкай закончанасці і поліфанічнасці не мае сабе роўных у томіку выбраных твораў, і як бы мерыцца дасягнуць да таго недасяжнага і выкшталцаванага, што мы знаходзім у лепшых класічных узорах. Такія вершы выплываюць з душы самі. Гэта адчуваецца па лёгкасці дыхання, якое прысутнічае ў радках, па нябеснай яснасці і чысціні, віртуозным абыходжанні з радкамі. Калі гэты верш параўнаць з творамі прыкладнога мастацтва, то ён можа нагадаць жар-птушку са шкла.

*Неба цэлы тыдзень плача,*
*Мне таксама не спяваць.*
*Прыляці, сініца ўдачы,*
*Сум на смак пакаштаваць.*

Калі радкі перавесці на прозу, то выходзіць, што ідзе дождж, зацяжны, абложны. Лірычнаму герою ў такія хвіліны, безумоўна, не надта весела, больш таго, сумна і маркотна да безвыходнасці, і ён запрашае сініцу адведаць гэтага суму на смак, раздзяліць яго з ім, даведацца, як нялёгка бывае чалавеку ў такія журботныя часіны. У тым, што "неба тыдзень плача" і лірычнаму герою "таксама не спяваць", — няма нічога дзіўнага ды і шукаць тут штосьці звышнатуральнае наўрад ці трэба. А вось наступнае двухрадкоўе: "Прыляці, сініца ўдачы, сум на смак пакаштаваць" прымушае нас запыніць увагу. Чаму паэт звяртаецца да сініцы, а не да нейкай іншай птушкі? Аўтар ішоў ад фальклору, магчыма, ад прымаўкі: лепш сініца ў руцэ, чым жураўель у небе. А хіба мы не ведаем легенду ці казку, як сініца падпаліла мора! Словам, сініца слыве ў народзе чарадзейнай птушкай. Што да Сяргея Законнікава, то пад сініцай ён меў на ўвазе радасць, святочны настрой. Просьба лірычнага героя да сініцы "сум на смак пакаштаваць" — сапраўдная паэзія, перададзеная пры дапамозе мастацкага вобраза.

Не слабей за першую гучыць і другая страфа гэтага верша, што прыемна здзіўляе і ўражвае. Як правіла, да ўдала знойдзенай першай другая страфа часцей за ўсё з'яўляецца звычайнай падпоркай, знаходзячыся ў святле першай, што і кампенсуе яе гучанне. У гэтым жа вершы моцная і другая страфа.

*Дзень — высокая званіца,*
*Верху ў хмарах не відаць.*
*Дзе ж ты, птушка-чараўніца, —*
*Не магу я адгадаць.*

Мы бачым заклапочанага і крыху разгубленага героя, які ходзіць па хаце, зазірае ў вокны, за якімі — густыя шэрыя хмурыны і дождж, туман і непагадзь, і ён трывожыцца, мауляў, дзе ты, птушка-чараўніца? І як усё роўна скардзіцца ці то сабе, ці то птушцы: "Не магу я адгадаць!"

Канчаецца верш рэфрэнам, паўторам двух апошніх радкоў з першай страфы: "Прыляці, сініца ўдачы, сум на смак пакаштаваць", што ўзмацняе агульнае ўражанне ад верша. Ім аўтар прадпаслаў два новыя: "Запрашаю не на дачу, не скакаць, не балявацъ". На першы погляд яны могуць падацца нейтральнымі, але настолькі, наколькі вымагае гэтага інтанацыя і мелодыка верша ў цэлым.

Чытаючы верш за вершам, раздзел за раздзелам, кнігу за кнігай, нельга не заўважыць, як пашырaліся абсягі творчай зацікаўленасці паэта, паглыбляліся пранікненне ў псіхалогію сваіх лірычных герояў, расло творчае майстэрства. Сяргея Законнікава займала не знешняе апісанне рэчаў і з'яў. Паэта цікавіў у першую чаргу чалавек, яго душа. Адзін за адным выходзяць з-пад яго пяра мастацкія творы, якія сведчаць, што паэт думаў не пра тое, як зарыфмаваць радкі, а як сказаць і пра што сказаць, імкнуўся да глыбокай і канкрэтнай думкі, глыбокага пачуцця, экспрэсіўнасці радка. У душы Сяргея Законнікава ідзе пераацэнка каштоўнасцей, пра што ён гаворыць: "Я цяпер адкрываю нанова, што злілося ў паняцці мой кут". А што можа быць для паэта даражэй за той міг, калі ён бачыць даўно знаёмыя рэчы і з'явы ў такім святле і ракурсе, якія надаюць ім больш аб'ёмнае і глыбокае значэнне. Ці не таму паэт чуе, як "Зарыпіць сініх зорак у небе жарства", і ён разумее: "гэта вечнасць ідзе Млечным Шляхам..." Здаецца, раней такога смелага вобраза мы не сустракалі ў вершах Сяргея Законнікава. Не можа паэт не задумацца і не запытаць у сябе: "Што за жанчына за мной след у след колькі ўжо год ступае? Кіёчкам шукае дарогі прыкмет, як быццам яна сляпая". І паэт дзеліцца сваёй разгадкай: "Тупае з хатульком і кійком следам за мною Памяць". Ці не па гэтай прычыне "аднойчы памяць апячэ шчымлівы пах ссівелай лебяды"? Паэт плыве з маленства ў дзень "тых, хто вучыўся не па букварах, а па бацькоўскіх пісьмах франтавых". Што ж, было і такое, што франтавыя пісьмы бацькоў станавіліся букваром. Паэт зноў і зноў звяртаецца да таго, што захавала яго памяць. "Я добра бачу, што з бакоў мяне, як сосны, абступаюць калоны стромкія вякоў". Хіба не памяць вінавата ў тым, што "памінаем дзядоў ля збуцвелых крыжоў, памінаем па звычаю з чаркай і скваркай..."

Памяць выступае ў вершах паэта ў розных іпастасях. Напрыклад, у вершы "Боты" яна паромшчык упарты, які "з даўніх вязе берагоў Віцьку — суседа па парце, большага брата яго".

Думаючы пра жыццё і людзей, паэт прыходзіць да нечаканай высновы: "Харошыя людзі нядоўга жывуць. Іх душы згасаюць, а думы плывуць". Прачытаеш і міжволі прыходзіць на памяць пушкінскае: "Воды глубокие плавно текут, мудрые люди тихо живут". Ці ёсць у гэтых дзвюх строфах штонебудзь агульнае? Здаецца, няма, апрача элегічнага, крыху журботнага гучання ды інтанацыі. І між тым яны перагукаюцца паміж сабой. Для паэта пачынаўся пушкінскі ўзрост, пушкінскае стаўленне да ўсяго існага і зямнога. Заканчваецца верш на аптымістычнай ноце: "Ды ўсё ж з вамі свет і радней і бліжэй, харошыя людзі, жывіце даўжэй!" Душа паэта прагне дабрыні, узаемнай шчырасці і даверу, таму ён і звяртаецца да таварыша, у якога "цень праплывае як хмара, па твары". І прапануе, "пакуль душа не пакрыта лядком, сядзем бліжэй, пагаворым ладком". Паглядзіце, як засвяціліся не толькі два ўдарныя словы, пастаўленыя пад рыфму, і асабліва ўжытае ў памяншальнай форме слова "ладком", але і радкі, увесь верш! "Пісаць — брацъ лёд рукамі голымі, пісаць — як жартаваць з агнём..." Гэта звядана паэтам на ўласным вопыце. Але нішто не можа запыніць яго: "І ты ляціш з агню ды ў полымя. Ну што ж. І ўсё-ткі рызыкнём!" Такая самаахвярнасць аўтара не можа не спадабацца чытачу, не можа не знайсці ягонай падтрымкі. Творчая рызыка, пошукі — вось той душэўны стан творцы, які прыносіць яму духоўнае задавальненне і, калі хочаце, асалоду, хаця Законнікаў і запэўнівае: "А доля проста не рыфмуецца, не ўціснеш лёс у верш сілком..." Не можа не кранудь шчырае прызнанне аўтара: "Каго люблю, таму на вочы стараюся трапляць радзей". Тут пэўная супярэчнасць, але менавіта такія вось натуры, непрадказальныя і супярэчлівыя бываюць для нас бліжэй, чым тыя, што стараюцца дагадзіць. Западае ў памяць і душу філасофская развага: "Праўда наша, праўда ваша... Хто ж яе дзяліў?" На пытанне аўтар адказвае новым запытаннем, якое і служыць адказам: "А ці можна праўду важыць, мераць на разліў?" Хіба гучыць не глыбока, не змястоўна?!

Уражвае цыкл вершаў, прысвечаны роднай матулі, якая адышла на вечны спачын. Цыкл гэты нагадвае своеасаблівую паэмурэквіем, які болем адгукаецца не толькі ў душы і сэрцы паэта, але і ва ўсіх чытачоў.

Прачытаўшы кнігу выбраных твораў Сяргея Законнікава "Лістам дарога запала", мы закрываем яе з адчуваннем, што адкрылі для сябе дзівосна-казачны свет, які стварыў і дазволіў пазнаёміцца з ім шчыры руплівец на ніве роднага слова паэт Сяргей Законнікаў.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

ВІНШУЕМ!

# Руплівіца



1 снежня гэтага года спаўняецца 50 гадоў з дня нараджэння крытыка і літаратуразнаўцы Таісы Грамадчанкі. У асяроддзі творчай інтэлігенцыі імя Таісы Грамадчанкі вядома даўно, бадай з першых яе публікацый, якія прыпадаюць на 1979 год. Аднак мне асабіста з тых адлеглых часоў згадваецца найперш не змест і агульная скіраванасць крытычных разваг маладога крытыка, а яе палеміка з Сяргеем Дубаўцом у 1984 годзе падчас іх паездкі ў Маскву на ўсесаюзны семінар маладых літаратараў. Пра гэтую палеміку шмат і неадночы расказвалі многія з тых, хто быў на тым семінары. Хударлявы, аскетычны, з гарачым позіркам "неистового" Вісарыёна С.Дубавец і Т.Грамадчанка, па-жаноцку прывабная, з вытанчанымі, далікатна-пяшчотнымі рысамі твару, што цалкам адпавядаюць ідэальнай жаноцкасці, але мала стасуюцца з моцным характарам, сілай волі і, як кажуць, мужчынскай логікай мыслення, і тым не менш арганічна спалучанымі ў яе вобліку. Парадаксальна-крытычнай канцэпцыі С.Дубаўца ў поглядах на літаратуру Т.Грамадчанка супрацьпастаўляла развàжлівую мудрасць і ўзважанасць ацэнак. У тыя часы С.Дубавец і Т.Грамадчанка былі як быццам двума працілеглымі полюсамі нашай маладой крытыкі, духоўнымі арыенцірамі для будучых "Тутэйшых" і тых, хто стаяў па-за згуртаваннямі, выбіраючы свой шлях у літаратуру. Так адбывалася таму, што гэтых двух літаратараў не толькі падзяляла дыяметральная разбежнасць поглядаў,але было і тое істотнае, што іх яднала: захопленасць літаратурай, шчырае памкненне зрабіць нешта значнае на карысць роднага краю.

Воблік жанчыны ў літаратуры суадносіцца найчасцей з паэтычнай творчасцю, рэдкая з'ява жанчыны-празаіка, жанчына ж крытык— гэта ўжо амаль выключэнне. Маю на ўвазе не жыццёвую працу-пасаду, звязаную воляй абставін з літаратуразнаўствам, а сапраўднае творчае прызванне. Таіса Грамадчанка якраз літаратурны крытык не па абавязку, а паводле прызвання душы.

Пра гэта сведчыць і яе няпросты, нетыповы шлях у літаратуру. Выпускніца сярэдняй школы з рабочага пасёлка Градзянка, што на Магілёўшчыне, у 1969 годзе яна распачынае сваё дарослае жыццё працай у Мінскім філіяле навукова-даследчага цэнтра электронна-вылічальнай тэхнікі. Паралельна вучыцца на вячэрнім аддзяленні філалагічнага факультэта БДУ па спецыяльнасці беларуская і руская мова і літаратура. Здольную студэнтку заўважылі, і адразу пасля заканчэння вучобы Таіса Грамадчанка становіцца аспіранткай Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, як называлася на той час сучасная НАН Беларусі, а пазней з 1979 года і супрацоўніцай гэтай установы.

Тэмай яе кандыдацкай дысертацыі было даследаванне творчай індывідуальнасці Івана Чыгрынава. У 1984 годзе выдавецтва "Навука і тэхніка" выдаць яе працу асобнай кнігай пад назвай "Жывая памяць народа" з падзагалоўкам "Нарыс творчасці Івана Чыгрынава". Аднак гаворка ў кнізе ідзе шырэй, Т.Грамадчанка імкнецца даследаваць мастацкі кантэкст часу, тыя тэндэнцыі, што вызначалі літаратурны працэс ва ўсёй складанасці імёнаў і твораў. Маладая крытык не абмінае складаныя, спрэчныя пытанні жанравага развіцця прозы, не палохаецца аўтарытэтаў А.Адамовіча, В.Каваленкі, і іншых знакамітых беларускіх і рускіх крытыкаў, на якіх арыентавалася ў той час наша літаратуразнаўства, і калі ёсць неабходнасць, сцвярджае ўласную думку. Так, прызнаючы, што І.Чыгрынаў "у нечым галоўным не спраўдзіў спадзяванні прыхільнікаў "новай эпапеі", яна тым не менш застаецца на баку аўтара, які зазначыў: "усю вайну апісаць немагчыма аднаму чалавеку, а вось сказаць нешта самае важнае, самае галоўнае павінен імкнуцца кожны, калі ўзяўся за пяро".

Акадэмічная школа з яе грунтоўным і ўзважаным падыходам заўсёды адчуваецца ў даследаваннях Т.Грамадчанкі. Удумлівасцю і аб"ектыўнасцю вызначаецца яе праца "Перад праўдай высокай і вечнай. Беларуская проза сёння" (1991). Напісаная ў часы перабудовы, кніга здзіўляе сваёй развàжлівасцю, выверанасцю ацэнак і выказванняў. Узаемаадносіны жыццёвай праўды і мастацкай логікі аўтарка нібыта разглядае з далёкай перспектывы, адкідваючы непатрэбную эмацыянальнасць, залішнюю тэндэнцыйнасць, пазначаючы ў тагачасным літаратурным працэсе элементы кан"юнктурнасці.

Гэтае ўменне вызначыць самае істотнае, важнае, раздзяліць зерне і палову — характэрныя рысы Т.Грамадчанкі і ў яе жыццёвай пазіцыі. Памятаю, як у мінулым годзе студэнты-выпускнікі Белпедуніверсітэта, дзе з 1991 года Т.Грамадчанка выкладае гісторыю літаратуры, выпусцілі сваю развітальную газету, у якой паказалі сваіх выкладчыкаў так, як успрымаюць іх у сваім уяўленні. Партрэт Таісы Грамадчанкі быў размешчаны ў цэнтры: яна стаяла, трымаючы ў руках вялізны сноп буйнога пшанічнага калосся. Самае цікавае, што традыцыйна лянівым студэнтам, якія не супраць уцячы з лекцый і скарыстаць шпаргалку замест чытання нуднаватых вялізных спісаў "патрэбнай" літаратуры, ад прынцыповасці і патрабавальнасці Т. Грамадчанкі дастаецца найбольш. Аднак, да іх гонару, можна сказаць, што яны заўсёды ўмеюць аддзяліць сапраўднае ад фальшывага і, можа, як ніхто, справядліва ацаніць і прафесійны ўзровень выкладчыка, і яго душэўныя, чалавечыя якасці.

Таіса Грамадчанка пачала свой шлях у літаратуры адначасова з вядомым сёння так званым сярэднім пакаленнем празаікаў: В.Гігевіча, А.Жука, У.Ягоўдзіка, Л.Дайнекі і інш. Пра творчасць многіх з іх яна пісала як у сваіх кнігах, так і ў перыядычным друку: часопісах "Полымя" ,"Маладосць", "Роднае слова", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Цікавымі і змястоўнымі, а часам палемічнымі былі яе выступленні на з`ездах і пленумах Саюза пісьменнікаў Беларусі, хоць сябрам яго яна з нейкіх сваіх асабістых меркаванняў так і не стала.

Узважанасцю ацэнак, прафесійнай добрасумленнасцю вызначаецца ўсё, што зроблена Т.Грамадчанкай. Гэта і развагі пра стан сучаснай крытыкі ў кнізе "Праблемы сучаснай беларускай крытыкі" (1996), напісанай у сааўтарстве з А.Гурскай і Л.Гарэлік, і інфармацыйна-даведачны дапаможнік для школьнікаў "Школьныя творы. Кароткі змест і аналіз" (1999), якім з удзячнасцю карыстаюцца не толькі школьнікі, але і студэнты, і выкладчыкі, а таксама шматлікія артыкулы ў перыядычным друку, дзе аналізуецца творчасць як сучасных пісьменнікаў А.Кудраўца, В.Карамазава, П.Панчанкі, А.Асіпенкі, В.Каваленкі і інш., так і тых, хто загінуў у 30-ыя гады, — Барыса Мікуліча, Васіля Каваля, Сымона Баранавых.

Плённая праца Т.Грамадчанкі на ніве беларускай літаратуры працягваецца. Ведаю, што крытык працуе зараз над складанай і актуальнай тэмай жанравага развіцця беларускага рамана, і веру, што задуманае не толькі здзейсніцца, але і стане грунтоўным, цікавым даследаваннем, як і ўсё, што напісана Таісай Грамадчанкай.

**Галіна ТЫЧКА**



## ЧАСАПІС

## «Миг высоты»

**Аўтарскае прысвячэнне надае кнізе Леаніда Ляшчынскага “Миг высоты” (яе выпусціла УП “Тэхнапрынт”) своеасаблівую падсветку: “...Писал я эту книгу, будучи уверенным в нашей с тобой, Мама, победе. Но тяжелая болезнь не отступила. Выйди книга чуть раньше, ты бы ей очень порадовалась.**

**Я дарю Тебе желанную книгу, памяти твоей посвящая. Прими ее...”**

**Нарадзіўся Л. Ляшчынскі 7 ліпеня 1977 года ў Мінску. Скончыў прафесіянальнае вучылішча, працаваў на заводзе “Гарызонт” сталяром, затым перайшоў у тэлевізійную вытворчасць. Завочна скончыўшы Вышэйшы радыётэхнічны каледж, набыў спецыяльнасць радыётэхніка. Цяпер**



**працуе ў рэдакцыі часопіса “Пищевая промышленность”. “Миг высоты” — яго першая кніга. Яна складаецца як бы з двух зборнікаў — паэтычнага і празаічнага.**

**У вершах і згадкі аб маленстве — радасныя, шчаслівыя:**

*Детство разное бывает.*
*Детство вкусное бывает.*
*В детстве весело бывает.*
*В детство я хочу попасть.*
*Там всегда играют дети.*
*Там звучат смешные речи.*
*Только это было раньше.*
*Только — это не догнать.*

**Маленства жыве і ў прозе Л. Ляшчынскага. Праўда, у гэтых згадках больш смутку. Як у навеле “Автопортрет” : “Мир славного, давно прошедшего и никогда мной не забываемого детства. Детства, оставшегося в моем сердце как нечто светлое и самое доброе. В этом добром и светлом осталась память о тех, кто со мною был рядом. Кто по-прежнему остается со мной и теперь.**

**Особенно дорога мне память о матери...**

**Потому я так хотел бы снова вернуться в свое детство.**

**В то самое, где была моя мама”.**

**У апавяданні “Капелька росы” адзін з персанажаў таксама жыве падобнымі ўспамінамі. І вымушаны ўспрымаць жорсткую рэчаіснасць: “Но жизнь в один день перевернулась — просто кувыркнулась вверх тормашками, и все пошло совсем не так, как мечталось, совсем не так, как хотелось. Все пошло очень больно и безжалостно”.**

**Кніга невыпадкова мае назву “Миг высоты” (дарэчы, так называецца і адзін з празаічных твораў, як сам Л. Ляшчынскі ў жанравых адносінах вызначыў, як аповесць, хоць гэта хутчэй апавяданне, абцяжаранае непатрэбнымі падрабязнасцямі). Пошук сваёй вышыні — імкненне да таго недасягальнага, што засведчыць і аб моцнасці духу, і аб магчымасці паказаць сваю сілу волі. Таму і Валодзя з “Мига высоты” — падлетак, які ў выніку аўтамабільнай катастрофы стаў інвалідам, прыкаваны да каляскі, усё ж узнімаецца ў неба на самалёце, які паспеў пабудаваць, калі быў здаровым. Па-свойму гэтая тэма вырашаецца ў вершы “Царь высоты”. Арол, “седой покоритель высот и хребтов, бесконечных долин и зеленых лугов”, разумее: “никогда ему больше уже не летать”. Але падобны стан яго не задавальняе: “И шагнул со скалы гордый царь высоты — и уплыл в бесконечную бездну ночи”. Лірычны герой Л. Ляшчынскага — у пошуку гармоніі:**

*Гармония, как свет, чиста,*
*В страданьях музы рождена.*
*Она свободна и вольна*
*Творить великие дела*
*Во имя счастья и добра...*
*Она — Бетховена душа.*

**Верш называется “Патетическое”. А поруч безыменны верш, які можна назваць “Элегия”:**

*Облетела листва,*
*опустели поля —*
*охладела природа к жизни...*
*Одиноко в лесу,*
*и в душе — никого.*

**Кніга “Миг высоты”, як бачым, шматпланавая і рознанастраёвая. І, несумненна, гэта толькі творчая заяўка аўтара. Як складзецца яго мастакоўскі лёс, пакажа час.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАЭЗІЯ

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



# Туга па жанчыне

●

*На доўгіх аблыжных вятрах*
*Праб'ецца ў самотнай часіне,*
*Каб свет не рассыпаўся ў прах,*
*Туга па жанчыне.*

*Туга па таемнай, адной,*
*Што сее цяпло і спагаду,*
*Што быццам анёл за спіной*
*Ці птушка з чароўнага саду.*

*Якой не стае нам заўжды,*
*Якую праз хвілі адчаю,*
*Праз нашы ўсе дні і гады*
*Нібы ратавання, шукаем.*

●

*Жоўтая рыска лістоты*
*У неба густой сіняве*
*Раптам шчымлівай нотай*
*Беражна ажыве.*

*Перамагу прастуду,*
*Выйду ў асенні сад.*
*Ведаю, там я буду*
*Як год таму назад.*

*Як дваццаць год, і трыццаць,*
*Як у дзяцінстве, як...*
*Будзе мне шчасце сніцца*
*Гордае, быццам сцяг.*

*Каб да яго прыпасці,*
*Укленчу, бы верны сын,*
*У прадчуванні шчасця*
*Гэтых сівых раўнін.*

●

*Як само адчуванне*
*Застарэлай віны,*
*Зноў прыходзяць пад ранне*
*Да мяне мае сны.*

*Як іх песціў і гушкаў,*
*Як выношваў, бы лёс!..*
*А цяпер вось падушка*
*Узмакрэла ад слёз.*

*І плыве пакрыёма*
*Свет праз далеч і пыл*
*Да бацькоўскага дому,*
*Да бацькоўскіх магіл.*

●

*Галінак цені, сілуэты дрэў*
*І птушкі голас у цішы напятай...*
*Я быў бы зноў бясконца вінаваты,*
*Каб момант гэты светлы не заспеў.*

*Каб не заўважыў за тваім плячом*
*Праменьчык, што хаваецца ў аблоках,*
*Каб не адчуў у радасці высокай,*
*Што мы з табой у еднасці жывём.*

●

*Знаходзіць тое, што згубілася,*
*А што набылася — згубіць...*
*У вокны сёння птушка білася,*
*Не ведаючы, што рабіць.*

*І свет праз шкло світаў нязведаны,*
*Таемны, быццам бы не ён,*
*Напоўнены тугой і бедамі,*
*Учора быў, нібы праклён.*
*Ён абуджаўся, палымнеючы,*
*Сатканы з радасці быцця,*
*І быў, на небе ружавеючы,*
*Чысцюткі, светлы, бы дзіця.*

*І сам сябе перамагаючы,*
*Ён паўставаў супроць бяды,*
*Нібы на шчасце благаслаўляючы*
*Машыны, вуліцы, сады.*

## Малітва

*Праз танюткае люстра слязы*
*Перад тварам — твае абразы.*
*І ты ўся нібы тут — перад тварам.*

*Як пакутна і доўга ішоў*
*Я праз морак учынкаў і слоў,*
*І вось ты — быццам даўняя мара.*

*І праз цёмную далеч начэй*
*Свеціць позірк жаданых вачэй.*
*А над намі — высокае неба.*

*Матылёк, нібы зорка на шкле*
*Шклянка чаю. І хлеб на стале.*
*Вось і ўсё, што на сёння мне трэба.*

●

*Маналог гарадскіх ускраін*
*У асенняй начной пары...*
*Як дзяцінства сваё, чытаю*
*Я і вуліцы, і двары.*

*Адступаюць туга і гора*
*І вяртаюць душу назад,*
*І зусім не чужы мне горад,*
*Што схаваўся за свой фасад.*

*А вакол — ліхтары і цені,*
*І лістоты калянай тлум,*
*І загадкавае сплячэнне*
*Даўніх мараў і дзіўных дум.*

*І салодка душа згарае*
*На бязлітасным тым кастры*
*Адзінокіх начных ускраін,*
*Дзе і вуліцы, і двары.*

●

*Сівізна сярод густой лістоты*
*І ў шурпатых звілінах кары...*
*Ты маўчыш. Вачэй тваіх самота*
*Нібы серпік месяца ўгары.*

*Ты заўжды мне, як жыццё і воля,*
*Як туман, як талыя снягі,*
*Ты — заўжды! Бо без цябе ніколі*
*Не пазбыцца мне маёй тугі.*

*Ты узнікаеш, каб ізноў прапасці,*
*Нібы зорка ў ранішнім святле,*
*Пакідаючы ўспамін аб шчасці —*
*Недапіты кубак на стале.*

●

*Душы нялёкая работа*
*Туга паперы і пяра...*
*Мой край — каханне і пяшчота,*
*І салаўіная пара.*

*І зноў світанне ружавее,*
*І чырванню усход гарыць.*
*Мой край — гаркота і завея,*
*Мой край — світанне і надзея,*
*І — сонца ў залатым бары.*



*Фота А. ПРУПАСА*

ПРОЗА

# Выхавацель

Дні, тыдні, дэкады літаратуры, мастацтва ў братніх рэспубліках – не былі паказухай, прыдуманай Сталіным, як імкнуцца гэта даказаць навейшыя “тэарэтыкі”. Праўда, цяпер змаўкаюць, бо традыцыя гэтая савецкіх часоў аднаўляецца ў больш шырокай гаме формаў. Прыклад – наш “Славянскі базар”, кіна- і тэатральныя фестывалі. Акрамя палітычных мэт – умацавання дружбы народаў – тыдні, дэкады служылі расшырэнню пазнання іншых краін, іншых людзей, узаемнай вучобы адзін у аднаго. Асабліва гэта тычылася нашага брата, пісьменніка. Выезды за мяжу – для выбраных. Выезд у Малдавію – калі ласка, даволі было рашэння прэзідыума Саюза пісьменнікаў, хто едзе, бо гэта была і ацэнка твайго месца ў літаратуры. Калі я самастойна паехаў бы ў Арменію, Таджыкістан, як часта ездзіў туды, напрыклад, Станіслаў Куняеў? У нас такіх падарожнікаў было нямнога – ехаць аднаму (хіба што Уладзімір Караткевіч), але ў групе жадалі бадай усе. У мяне, кіраўніка СП, былі найбольшыя магчымасці, на жаль, я не выкарыстоўваў іх, бо шкадаваў часу, хацелася больш напісаць, сюжэтаў хапала сваіх.

Парадным “прагулкамі” і гасцяваннем з запоямі дэкады не маглі быць ужо таму, што рыхтаваліся да іх загадзя, мінімум за год, а тое і за два. І ў гэты час і госці, і гаспадары стараліся як мага шырэй пазнаёміць сваіх чытачоў з творчасцю ўдзельнікаў дэкады – многа перакладалі адзін аднаго, друкавалі, асабліва паэзію, прысвячалі нумары часопісаў, а яны ў той час былі ёмістыя (у нас “Полымя”, “Нёман”).

Успамінаю дэкаду ва Узбекістане, калі здарыўся землятрус. Брыгаду ўзначаліў сам Броўка, я мусіў застацца кіраваць саюзам. Колькі было перапалоху, калі перадалі пра землятрус у Ташкенце. Мяне ўзнялі з ложка жонкі, дзеці нашых дэкадаўцаў. Ледзьве зднела – я кінуўся ў саюз. Дазваніцца да Ташкента не мог (“Лінія занятая” – адказ тэлефаністак). З сардэчным болем дачакаўся 9 гадзін – пачатку рабочага дня. Па “вяртушцы” пазваніў Старшыні Савета Міністраў Кісялёву Ціхану Якаўлевічу (у нас былі дэмакратычныя адносіны – мы землякі, Карма ад Агародні – тры кіламетры).

Маё паведамленне, што 15 нашых у Ташкенце, устрывожыла і яго. І ён хутка, мінут праз дваццаць, патэлефанаваў мне:

— Радуйся. Усе твае жывыя, здаровыя. Беларусаў такі землятрус не зваліць з ног.

Я пазваніў ва ўсе сем'і, супакоіў бацькоў, жонак, дзяцей.

На другі дзень мы сустракалі ў аэрапорце нашых герояў усім Саюзам, з добрай паўсотняй сваякоў, з кветкамі.

У дзень землятрусу адбыўся заключны вечар, не адмянілі. Адбылося некалькі штуршкоў, але ніхто не пакінуў залы, што ўцалела ў час ранішняга землятрусу. Героі! І ўзбекі, і нашы.

Была яшчэ іншая форма сустрэч. У Саюзе пісьменнікаў СССР існавалі камісіі па нацыянальных літаратурах і па некаторых відах, жанрах, напрыклад, па дзіцячай літаратуры, па нарысе. Але самай актыўнай і моцнай была камісія па ваенна-патрыятычнай літаратуры. Яна арганізоўвала выязных пасяджэнняў больш, чым хто іншы. Жылі тэмай вайны. А дзе ж і пагаварыць пра ваенную літаратуру, як не ў Беларусі! Броўку захапіла ідэя. Рыхтаваліся грунтоўна. Інстытут літаратуры падняці на ногі, разварушылі інертнага Васіля Барысенку, дырэктара. Падрыхтавалі добры дзесятак грунтоўных дакладаў. Я займаўся не менш за Броўку, але, як кажуць, “працаваў у масах”. Усе перамовы ўгары – у ЦК – вёў Броўка. Там удакладняліся даты, экскурсіі, культмерапрыемствы для гасцей, прыём у іх гонар і г.д.

Але перад прыездам баталістаў Броўка некуды з'ехаў, не помню куды, здаецца, за мяжу, на нейкі кангрэс.

Усё лягло на мае не вельмі яшчэ загартаваныя плечы. Але гасцей я ўмеў прыняць і асабліва не хваляваўся: побач ЦК – памогуць.

Прыехала чалавек дваццаць. Пісьменнікі розных рангаў. Майстры і падмайстры. Быў сівы ўжо Канстанцін Сіманаў. І прыехаў партызанскі мемуарыст Пятро Вяршыгара. А ў яго ў Беларусі была асаблівая “слава”. Цэлую зіму злучэнне Каўпака, у якім Вяршыгара быў камісарам, панёсшы значныя страты ад фашыстаў на Чарнігаўшчыне, стаяла ў Беларускім Палессі, у раёне Петрыкава—Лельчыц. Мелі падтрымку беларускіх злучэнняў Казлова і Каржа, елі хлеб нашых сялян. І пасля ўсяго гэтага партызан-пісьменнік назваў беларусаў туземцамі. Думаю, без злога сэнсу – “для красного словца”. Але слова гэтае страшэнна абурыла начальніка партызан-

*Заканчэнне. Пачатак у № 47*

Іван ШАМЯКІН

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ



скага штаба, першага сакратара ЦК КПБ П.К.Панамарэнку. А за ім, пасля яго злых выступленняў з трыбуны, і усіх беларускіх партызан. І раптам Вяршыгара прыехаў у Мінск. Можа, усё сышло б ціха. Але Вяршыгара быў няўрымслівы прапагандыст сваёй біяграфіі і сваёй творчасці. Груба кажучы, самарэкламшчык.

У той час толькі яшчэ пачыналася беларускае тэлебачанне. Працавала пакуль без праграм. Як кажуць, на падхопе – каго падхопяць, хто з'явіць жаданне, толькі з тэкстам для цэнзуры. Я сам так выступаў разы тры і, між іншым, там вучыўся гаварыць без напісанага, хоць "літ" меў. Вяршыгара сам напрасіўся на тэлебачанне, у дзень прыезду. Маладыя супрацоўнікі, не ведаючы даўняй ужо гісторыі з "туземцамі", з радасцю далі яму магчымасць вылезці на экран. Тэлевізараў было нямнога, але ў былых партызан, якія займалі высокія партыйныя ці дзяржаўныя пасады, ужо стаялі "скрынкі" і ў вячэрні час сем'і не адрываліся ад новага дзіва; канал быў адзін.

Адразу ж пасля з'яўлення на экране Вяршыгары, а гаварыў ён з гадзіну, зазванілі тэлефоны ў кабінетах адказных работнікаў ЦК. Партызаны выказвалі абурэнне: чалавек, які абразіў беларусаў, на беларускім экране!

Пасланец ЦК знайшоў мяне ў рэстаране, дзе мы добра частаваліся з гасцямі.

— Вас выклікае Васіль Філімонавіч Шаура.

Шаура быў сакратар па ідэалогіі.

Я спалохаўся хіба таго, што ўжо на падпіцці. Але я, бадай, ніколі не браў лішняга. А начальства перастаў баяцца, можа, яшчэ з арміі, дзе быў камсоргам і дзе з маёй начытанасцю лічыўся і камандзір дывізіёна, і яго намеснік па палітчасці, і мой "бацька" парторг Калбека. Позна выклікаюць. Але тады яшчэ трымалася сталінская звычка – працаваць увечары і нават уначы. Устрывожыў міліцыянер у бюро прапускоў, які яўна пачуў пах каньяку, аблізнуўся, але дакорліва паківаў галавой: куды, маўляў, лезеш у такім стане? Але пропуск быў заказаны да майго прыходу.

Шаура прыняў мяне адразу, хоць у прыёмнай сядзелі два работнікі апарату – чакалі сваёй чаргі.

Інтэлігентны Васіль Філімонавіч не выйшаў з-за рабочага стала, не павітаўся за руку, на мой "добры вечар" адказаў здзіўленнем і гнеўным бляскам вачэй:

— Добры? Для вас добры? – сесці да століка не запрасіў, але і з адлегласці пачуў маю "тэмпературу", падагрэтую хваляваннем. – Дзе вы налізаліся?

— Я прымаў гасцей і выпіў чарку.

— Якіх гасцей?

Я здзівіўся: не ведае, хто да нас прыехаў? "ЛіМ" месяцы тры ўжо распісвае гэтую знамянальную падзею. І радыё не раз вяшчала.

— Маскоўскіх літаратараў. Камісію па ваенна-патрыятычнай літаратуры.

— Хто іх запрашаў?

— Мы пісалі вам, праграму дасылалі. Броўка казаў, што гутарыў асабіста з вамі, і вы ўхвалілі...

— Броўка далёка...

— Я – яго намеснік, — нагадаў я, відаць, недарэчна. — Даты ўзгоднены з СП СССР.

— Вы – намеснік? – грэбліва скрывіўся сакратар. – Вам свіней трэба пасвіць, а не літаратарамі кіраваць.

Гэта моцна абразіла. Я – лаўрэат Сталінскай прэміі, аўтар трох раманаў... І маёй працай намесніка былі задаволены і Броўка, і мае калегі, маладыя і старэйшыя – Глебка, Гурскі, і адсюль, з высокага дома, нараканняў не было. Перасохла ў горле, заскаланіліся ногі, зашумела ў галаве не як ад ста грамаў – як ад трохсот, выпітых залпам, без закусі. Што адказаць? Не хапіла духу адказаць дзёрзка. І я вінавата сказаў:

— Каровы я пасвіў, свіней не пасвіў...

Шаура, відаць, адчуў, што перагнуў – абразіў, і голас яго набыў звычайны тон – не гнеўны. Ён спытаў:

— Хто арганізаваў выступленне Вяршыгары?

— Дзе?

— Дзе!? – гнеў Шауры выплеснуўся крыкам. – Вы не ведаеце – дзе?! Дзе вашы госці? Пастух!

Я не бачыў тэлевізійную перадачу. Здзівіўся, што ў рэстаран Вяршыгара не з'явіўся. Спытаў, дзе Пятро Пятровіч. Мне сказалі, што выступае на тэлебачанні. І я не надаў гэтаму ніякага значэння. Антывяршыгараўская кампанія была, калі я яшчэ рабіў настаўнікам, і тут, у ЦК, у самым вялікім кабінеце сядзеў Панамарэнка. У мой час пра Вяршыгару, бадай, забыліся, тым больш, што нашы мемуарысты ў сваіх кнігах яго не чапалі. Але тут я ўспомніў даўнюю гісторыю. І адразу сцяміў, што Шауру атакавалі партызаны, можа, сам Казлоў пазваніў.

— Думаю, яго запрасілі самі тэлевізійшчыкі. У нашай праграме ёсць выступленне аднаго Сіманава.

— З тэлевізійшчыкамі размова будзе асобная. Ды і з вамі прыйдзецца прадоўжыць.

Я ледзьве праглынуў густую сліну. Падумаў: "Скончылася мая кар'ера намесніка старшыні". Ад крыўды спазм сціснуў горла. І я ледзьве паўтарыў асіплым голасам тое, што сказаў ужо ў пачатку разносу:

— Пра нараду мы вам пісалі.

— Я кажу не пра нараду, а пра арганізацыю яе, пра вашу работу. Калі заўтра засядаеце?

— З адзінаццаці.

— Чаму так позна?

— Хацелі – з дзесяці, але масквічы пажадалі...

І раптам – спагада і іншы тон:

— Сядайце.

Я сеў у канцы доўгага стала, што для пасяджэнняў.

— Я, на жаль, не здолею быць на адкрыцці. Бюро. Але сам пакажу гасцям горад. Заўтра ў шаснаццаць. Закажыце аўтобус. Лепшы, які ёсць у аўтабазе.

Нечаканы паварот здзівіў мяне. Я ажно падхапіўся з крэсла, па-армейску гукнуў:

— Слухаюся, Васіль Філімонавіч!

— Можаце ісці.

Толькі ў калідоры адчуў, што ў самлелыя ногі вяртаецца сіла. Не на ліфце – па лесвіцы, сягаючы праз тры ступенькі, скаціўся з чацвёртага паверха. І адразу – у саюз, дзе нікога ўжо не было. Саюз знаходзіўся побач з ЦК, у доме, у якім падпольшчыкі пакаралі гаўляйтэра Кубэ. Пазваніў дырэктару Літфонду Алер:

— Фані Яфімаўна, заўтра а палове чацвёртай аўтобус да ЦК.

Дырэктрыса наша не вырашала ніводнай справы без пытанняў:

— А каму гэта трэба?

— Нам! Нам! Гасцям горад паказаць.

— А чаму да ЦК, а не да саюза?

— Паедзе сам Шаура. Яго загад.

— Дык у яго няма каму заказаць аўтобус? У іх сваіх поўны гараж.

— Ідзі скажы яму!

— Я? Каб я была на тваім месцы... – яна ўсім казала *ты* – не толькі нам, маладым, але і сваім равеснікам – Броўку, Гурскаму, Якімовічу, толькі да Крапівы звярталася на *вы* і, безумоўна, да Коласа, яму яна нават баялася званіць, прасіла неяк мяне.

"А чаму вам самой не пазваніць?" — "Я, канешне, магу, але ж гэта, скажу табе, не той цымус".

— Я хацеў бы пабачыць вас на маім месцы. Дзесяць мінут назад... на чацвёртым паверсе.

— Ён даў табе прачуханку? За што? Не тыя прыехалі?

— Я іх збіраў там, у Маскве!

— Ай-яй... Так стараліся. Усе. І не дагадзілі. Што?

— На аўтобус не забудзься!

— Будзе табе аўтобус.

— Не мне. Гасцям. Шауру.

— Яму што, трэба залаты?

— Скажы дырэктару базы, хто будзе ездзіць.

— Не бойся. Дырэктар мой сваяк.

Да вайны Алер рабіла сакратаром гаркома, і ўсе, хто кіраваў у той час у горадзе, хто ацалеў падчас "вялікай чысткі" і ў вайну і займаў пасады пасля вайны, былі яе *сваякамі*. Да часу замены кадраў яна была незаменным гаспадарнікам.

Я спакойна пайшоў да гасцей.

Нарада ішла, што па рэйках. Сама тэма была цікавая. А якія практыкі і тэарэтыкі прыехалі! Сіманаў гаварыў з гадзіну. Заваражыў. Без абеду, з'еўшы ў арганізаваным Алер буфеце па бутэрбродзе і выпіўшы кавы, госці на чале з намі выйшлі з "дома Кубэ" на Энгельса, павярнулі на Карла Маркса, дзе насупраць цэнтральнага ўваходу ў будынак ЦК стаяў зялёны, вымыты да бляску аўтобус. Я пахваліў Алер, якая круцілася тут жа.

— Малайчына, Фані Яфімаўна, што трэба.

Госці селі ў аўтобус, а я з Міколам Ткачовым і Алер стаялі на паўдарозе ад дзвярэй ЦК да аўтобуса — чакалі свайго шэфа.

А вось і ён. Мінута ў мінуту.

— Добры дзень, Васіль Філімонавіч.

Ён не адказаў на прывітанне і кінуў на мяне спапяляючы позірк пажаўцелых ад гневу вачэй. У мяне ёкнула сэрца. Што яму не спадабалася? Што не так?

— Усе ў зборы. Аднаго Сіманава ўкралі генералы.

— Я ведаю.

— Нарада ідзе цікава.

— Мне дакладвалі, — і ніякай увагі да маёй асобы.

Мікола замаргаў вейкамі і паціснуў плячамі. Шаура нырнуў у аўтобус. Мікола спытаў:

— Чаму ён такі няласкавы да нас?

— Відаць, усё яшчэ з-за Вяршыгары, — я раніцаю расказаў яму пра ўчарашні адлуп мне.

Але ў аўтобусе Васіль Філімонавіч весела павітаўся з гасцямі і ... звярнуўся адразу ж да Вяршыгары:

— Чуў, Пятро Пятровіч, ваша выступленне.

— Чулі і бачылі?

— Чуў і бачыў. Выдатны вы прапагандыст. І таленавіты паэт.

— Дзякую. Навучыўся ў партызанах. Давучыўся ў літаратуры... І там і там – людзі асобага складу.

У аўтобусе быў галоўны архітэктар горада, але яму Шаура даў сказаць толькі калі ехалі назад, — пра генеральны план забудовы горада. Сам прагаварыў гадзіны дзве, нямала дзе наблытаўшы, што датычылася гісторыі. Але хто адважыўся б паправіць? Я? Дзякуй. Ён і так ні разу не звярнуўся да мяне, не глянуў у мой бок з чалавечай павагай.

Выйшаўшы з аўтобуса, Васіль Філімонавіч развітаўся з усімі гасцямі за руку. Мяне абмінуў – свой. Але павярнуўся і, як бы перапрашаючы, сказаў:

— А вы зайдзіце да мяне.

Але ад такога перапрашэння ў мяне заскаланіліся каленкі горш, чым учора, калі ён распякаў за Вяршыгару, і далоні сталі мокрыя ад поту. І спіну як абдало ледзяной вадой. А лоб гарэў.

Не запрасіў мяне ў ліфт, у які сам увайшоў, адразу націснуў кнопку. І ў прыёмнай трымаў з паўгадзіны. Астываў сам ці што?

Калі памочнік адлучыўся, я адважыўся зайсці ў кабінет сам: нырнуў, што ў палонку, хутчэй бы прасвятліць, што я зрабіў не так.

— Я слухаю вас, Васіль Філімонавіч.

Ён нейкую хвіліну глядзеў на мяне, як бы пазнаючы ці ўспамінаючы, што меў сказаць мне.

— Які вы аўтобус заказалі?

— А што? Я даручыў Алер. Сказаў – самы лепшы.

— Вы не знаеце, якія ў горадзе ёсць аўтобусы?

— Я ж не міністр транспарту.

— Вам хочацца быць міністрам? – і зноў, як учора, абразліва: — Пастухом вам трэба быць!

На абразу лепш не адказваць, чаго я, між іншым, прытрымліваўся і да таго, і яшчэ больш упарта пасля гэтага "вясёлага" інцыдэнту.

— Пазваніце гэтай вашай... якая за вас працуе... даручыцельніцы! З якой базы яна заказала аўтобус? Я голас сарваў. І скажыце Спірыдовічу: дырэктара базы да мяне! Зараз жа!

Узрадаваны, я выскачыў з кабінета у прыёмную, праз яе ў пакой памочніка, далікатнага чалавека, з якім у мяне былі амаль сяброўскія адносіны.

Хвілін праз пятнаццаць, не больш (я не паспеў расказаць Спірыдовічу ўсю эпапею), у прыёмную нясмела ўвайшоў высокі хударлявы вусаты мужчына, больш падобны на грузіна, чым на яўрэя. Спартыўна падцягнуты, аднак запыханы, быццам прабег па лесвіцы на чацвёрты паверх.

— Я дырэктар... – назваў нумар базы, прозвішча, але я не запомніў.

— Пачакайце, я далажу, — сказаў памочнік.

А мне раптам стала весела ад яго страху. Можна падумаць, узарвалася атамная бомба. Магчыма, я пасміхнуўся, і ён палічыў мяне за супрацоўніка апарату.

— Вы не ведаеце... за што мяне? Я так высока першы раз.

Я зразумеў яго стан і паспачуваў чалавеку, які кіруе, пэўна ж, немалым калектывам. "Але ж там перад ім гэтак жа дрыжаць, не тое, што ў нас у саюзе", — падумаў я.

Памочнік з'явіўся ў дзвярах.

— Заходзьце.

Адзін дырэктар ці мне таксама? Але я не стаў удакладняць і пайшоў першы: падтрымаць чалавека.

Дырэктар забыўся зняць капялюш, і я ў кабінеце штурхнуў яго локцем, паказаў яму на галаву. Ён сарваў капялюш і выцер ім твар.

— Прабачце, прабачце.

Але Шаура гэтага не бачыў, бо апусціў галаву да папер, што ляжалі перад ім. Доўга не падымаў вачэй, быццам забыўся і на мяне, і на дырэктара. Потым рэзка падняўся. Дырэктар ад нечаканасці схапіў мяне за руку. Мы стаялі побач. Ён – высачэнны, што жардзіна, я — што кароткі камялёк.

— Вы які далі аўтобус?

— Каму?

— Саюзу пісьменнікаў? Заказвалі вам?

— А які трэба было?

— Навейшы.

— Я даў лепшы.

— Лепшы не радыёфікаваны? Сакратар ЦК сарваў голас.

— Вы маеце на ўвазе новыя "Ікарусы"? Дык іх у мяне няма. Іх усяго чатыры радыё... радыё... Тры ў Саўміне, адзін – у Інтурысце.

Шаура доўга моўчкі глядзеў на нас жоўтымі вачамі. І я зноў парадаваўся і ўедліва падумаў: "А што, сеў у лужу, Васілёк?"

Ніколі ні раней, ні пазней не чуў я ад яго, выкшталцованага інтэлігента, слова, якое ён са злосцю кінуў тады нам:

— Вымятайцеся!

У калідоры мой таварыш па няшчасці прытуліўся да сцяны і дастаў з кішэні шкляны цюбік з валідолам.

А я зусім па-хлапчукоўску пахваліўся:

— Мне прыходзіцца часта бываць у гэтым кабінеце.

— Вам – што... Вы – пісацель.

Пра Вяршыгару і пра аўтобус я расказваў, як пра вясёлую прыгоду. Але нікому тады не прызнаўся, што пасля яе, прыгоды гэтай, кожны выклік туды – у вуглавы кабінет чацвёртага паверху, куды некаторыя мае калегі марылі трапіць, — мяне палохаў.

Такая боязь трымалася да нашага палёту на тыдзень літаратуры з Таджыкістан.

У Маскве мы даведаліся, што з намі паляціць Шаура. Пазваніў Броўка з Мінска. Узрадаваліся: як гэта ўзнімала ўзровень тыдня! Не было яшчэ, каб у рэспубліці ехаў з пісьменнікамі ці акцёрамі сакратар ЦК, у Маскву ездзілі сакратары і нават старшыні Саўміна.

Брыгаду ўзначальваў я. Броўка не любіў ездзіць, на дэкадах трэба працаваць: па тры выступленні ў дзень. Ездзіць любіў Глебка.

Але, едучы ў аэрапорт, мы ўжо не верылі, што Шаура ляціць: ніякага сігналу, што ён у Маскве, ні ад яго, ні з Пастпрэдства.

У аэрапорт прыехалі рана, да адлёту было гадзіны тры. Глебка экзаменаваў нас, невукаў, па геаграфіі і гісторыі Таджыкістана, знаёміў з яго літаратурай. Не ўпершыню ён здзіўляў ведамі пра народ, да якога мы ляцелі ў госці. Не ленаваўся пачытаць. Высока трымаў марку акадэміка.

За гадзіну да адлёту Ён з'явіўся, наш Высокі кіраўнік. Як заўсёды элегантны, але з пакамечаным тварам, з сінякамі пад вачамі. Як пасля перапою. Узрадаваў нас не толькі сваім з'яўленнем, але і паведамленнем, што паляцім мы з Касыгіным у яго самалёце. І падаваў гэта так, што нібыта арганізаваў гэта ён, Шаура. Як не паважаць такога кіраўніка!

Хутка нас пасадзілі ў самалёт. Але не адну нашу групу — чалавек пятнаццаць таджыкаў, на выгляд зусім простых людзей, не інтэлігентаў. Шаура сеў у трэцім радзе, перад салонам Старшыні Саўміна. Адгароджана было нямнога плошчы. Усё гэта было цікава нам, творцам, усё ж трэба ведаць, усё спатрэбіцца для чарговага рамана. Ды і Касыгіна мы любілі – чалавек!

*(Заканчэнне на стар. 14—15)*

## Зорачкі

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася вечарына "Зорачкі", прысвечаная 95-й гадавіне з дня нараджэння беларускага паэта, Сяргея Новіка-Пеюна. Ладзілася яна разам з Беларускім паэтычным тэатрам аднаго акцёра "Зьніч".

Пачалася вечарына з адкрыцця невялікай выставы, на якой былі прадстаўлены фондавыя матэрыялы з архіва Сяргея Новіка-Пеюна. Архіў быў набыты музеем у спадкаемцы пісьменніка Зубовіч Вольгі Міхайлаўны



ў 1996 г. і налічвае больш за 400 адзінак: рукапісы, фотаздымкі, машынапіс, асабістыя рэчы, лісты шматлікіх сяброў і знаёмых, кнігі пісьменнікаў з дароўнымі надпісамі. Упершыню архіў паэта, хай і не надта ў вялікім аб'ёме, быў прадстаўлены гасцям музея: пісьменнікам, музейшчыкам, аматарам творчасці Сяргея Міхайлавіча.

Можна было ўбачыць вельмі цікавыя прадметы: даваенная запісная кніжка з пажаданнямі сяброў і знаёмых на беларускай і польскай мовах, фотаздымкі паэта 20-х гадоў, ноты і рукапіс знакамітага верша "На выгнанні" ("Зорачкі"), металічны мужчынскі пярсцёнак, зроблены Сяргею Міхайлавічу адным з "паплечнікаў па Калыме" з надпісам "1945 Калыма 1955", а побач зборнічак вершаў "Песні з-за кратаў" (1993). Цікавай старонкай з жыцця Сяргея Новіка-Пеюна з'яўляюцца кнігі беларускіх пісьменнікаў з дароўнымі надпісамі, многія з якіх былі прадстаўлены на выставе: Я. Брыль, І. Шамякін, С. Грахоўскі, В. Жуковіч, У. Дубоўка, М. Танк, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Р. Шырма і інш. Вельмі сімвалічна ў вітрыне ляжала скрыпачка паэта з парванымі струнамі і побач яго зборнік "Заусёды з песняй" (1984). З архівам гасцей пазнаёміла намеснік дырэктара па навуцы Галіна Ладзісава.

Далей гаспадыняй вечарыны была Галіна Дзягілева, кіраўнік тэатра "Зьніч". Прагучалі вершы, песні ў выкананні Вячаслава Статкевіча і самой шаноўнай Галіны. Сваімі ўспамінамі падзяліліся пісьменнікі Васіль Жуковіч, Сяргей Панізнік, які прачытаў і верш-прысвячэнне "Хроснік Купалы". Цікава расказаў аб уражаннях ад сустрэч з Сяргеем Міхайлавічам скульптар Сяргей Кляшчук. Практычна яны разам працавалі над партрэтам паэта. Выступіла стрыечная пляменніца Бурбоўская Алена Уладзіміраўна. Было прыемна, што яна зрабіла вельмі каштоўны для музея падарунак — кніжачку "Сцягі і паходні" (1965) — творы паэтаў Заходняй Беларусі, у тым ліку Сяргея Новіка-Пеюна.

Вечарына прайшла ў цёплай, камернай атмасферы, бо сабрала сапраўдных аматараў творчасці паэта і яго сяброў.

**Вольга ГУЛЕВА**

## "Беларускі гістарычны часопіс", № 5

Змешчаны артыкулы В. Ракуця "Адукацыйны стандарт прыняты, а што далей?", М. Мініцкага "Да развіцця канцэпцыі школьнай гістарычнай адукацыі (тэарэтыка-метадалагічныя і метадычныя асновы)", В. Гігіна "Узаемаадносіны бальшавікоў і левых эсэраў у Заходняй вобласці (лістапад 1917— чэрвень 1918 гг.)", Р. Платонава "Пад пятой германскага кайзера", Н. Гардзіенкі "Выхаванне шляхцянак у Вялікім Княстве Літоўскім у XVIII ст.", С. Барыса "Беларускі музей-скансэн на Пцічы — наш гонар і ганьба", Н. Куракевіч "Падрыхтоўка педагагічных кадраў у навучальных установах у Беларусі ў 1920-я гады", В. Мянькоўскага "Англа-амерыканская гістарыяграфія палітычнай сістэмы СССР (1970—1980-я гг.)", Я. Юхо "Дынастыя Віценевічаў у Беларусі", В. Чаропкі "Паходжанне і радавод вялікіх князёў літоўскіх", А. Алая і У. Мароз "Генералы Гуркі", Г. Злотнікава "Сынковіцкая Свята-Міхайлаўская царква-крэпасць" і шэраг іншых матэрыялаў.

## ПАЭЗІЯ

### Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



•

*Хвалі накідалі дохлых мідый*
*На ўзбярэжжа сонечнай Элады.*
*Мінатаўр у цэнтры лабірынту*
*Думае пра цноты Арыядны.*
*Спіць пачвара ў сэрцы прыгажуні.*
*У наканаваны час прачнецца.*
*І Арфей дарма кранае струны,*
*Каб крануць падманутае сэрца.*
*Проста ўсё збываецца, што снілі*
*Паркі, аднавокія старэчы.*
*Проста з воску мы зляпілі крылы,*
*Не ўсвядоміўшы ані пра вечнасць.*

•

*Дзверы не адчыняцца*
*ў той далёкі свет,*
*Дзе ідуць дзіця і леў*
*побач, след у след.*
*Дзе спявае Алканост,*
*папараць цвіце,*
*Забівае змея вой*
*з сонцам на шчыце.*
*На дзвярах туды замкі,*
*ну а тут — зіма.*
*І няма ў мяне ключа,*
*і мяне няма.*

•

*Сляды спараджаюць сляды —*
*і спародзяць дарогу.*
*Мы рушым па ёй,*
*адпачынак адкладўшы на потым.*
*Мы — цені дарогі.*
*І мы не сустрэнем нікога,*
*Бо наша дарога*
*замкнёная ў кола заўсёды.*
*А я прыпыняюся.*
*Што мне лавіць? Толькі вецер.*
*А ён без таго прылятае ў абдоймы і плача.*
*Не варта спяшацца.*
*Цікавага столькі на свеце,*
*Абапал дарогі,*
*чаго мы не чуем, не бачым.*
*Стамлёна прысяду*
*на ўскрайку сваёй каляіны.*
*Няхай праплываюць аблокі,*
*трава вырастае.*
*Хай міма імчаць*
*кавалькады, карэты, машыны...*
*Я вырвуся з кола —*
*нібыта з ваўчынае зграі.*

### Эміграцыя

*Дом зачынены. Вазок стаіць ля брамы.*
*У гародчыку крывавыя вяргіні.*
*Дрэмле край*
*прыўкрасных рыцараў і дамаў,*
*Дрэмле край*
*халопаў, здраднікаў і злыдняў.*
*Па пялёстках і па страчаных мараннях,*
*У апошні раз —*
*між родных краявідаў.*
*Любы край, тваё змарнуецца каменне,*
*Назапашанае, каб мяне закідаць.*
*Крылы складзены на дне маёй валізы.*
*Ці чужое неба іх напоўніць ветрам?*
*Клёна ліст ляціць, нібы краёчак рызы.*
*Ды ніхто яго не пацалуе з верай.*

•

*Мой першы рыцар не са мной.*
*Плыве ладдзя паўз нашу выспу.*
*На мокрых дошках спіць герой,*
*У хвалях месяц, быццам рыба.*
*Што я магу? Глядзець, нібы*
*Мой позірк — мост праз прорву смерці.*
*Цікуюць навакол рабы —*
*З вачэй маіх слязу прыкмеціць.*
*Не, не дазволю груганам*
*Піць з возера апошняй мроі.*
*Няхай гадаюць — колькі нам*
*Граху і шчасця Бог дазволіў.*
*Не высвеціць паходня ім*
*Ні рысачкі маёй жалобы.*
*За каралём пайду сваім*
*У сэрца скрадзенай Еўропы.*
*А ты спываеш у туман,*
*У ноч, у вечную дарогу...*
*І слёз няма, і слоў няма.*
*І больш няма ў мяне нічога.*

•

*Беларуская Ізольда,*
*цёзка той, такой каханай,*
*нахіляецца над ложкам,*
*дзе паранены Трышчан*
*трызніць, трызніць, паўтарае*
*ўсё імя яе бясконца.*
*Ну чаму б і не паверыць —*
*што якраз яе імя!*
*Тая, іншая, далёка,*
*па-за морам, па-за лёсам.*
*Заставайся, бедны рыцар, тут,*
*ва ўладзе белых рук.*
*Залатыя косы лепей,*
*чымсьці чорныя, ліюцца.*
*Рукі белыя прылашчаць*
*за смуглявыя — лацвей!*
*Рыцар кідаецца ў ложку,*
*рве шаўковыя прасціны,*
*кліча ён сваю Ізольду.*
*Не, душу не падмануць.*
*Кубак падае з адвярам*
*на каменную падлогу.*
*Дзве Ізольды. Дзве пакуты.*
*Два каханні. Смерць адна.*

•

*Старасвецкія прарокі не пабачылі Месіі.*
*Зоры ссыпаліся ў попел*
*на ахвярнікі дарог.*
*І скруцілася змяёю,*
*што кусае хвост бяссіла,*
*Зло, якое спарадзілі,*
*свята верачы ў дабро.*
*Не пазналі нашу мару —*
*бо ў рыззі, не ў аксаміце.*
*Не пазналі — не на троне,*
*басанож — не на кані.*
*Не пазналі — не маліце,*
*аб інакшай — не маліце.*
*І ахвяры не паліце*
*на згасаючым агні.*
*На нябёснай калясніцы*
*наша вечнасць адлятае.*
*На жалезнай калясніцы*
*высіцца зямны ўладар.*
*А свайго выратаваўцу*
*зноў ніхто не распазнае*
*На сцяжынцы прыдарожнай,*
*у падранай рызе мар.*

•

*Не дадзена перарабіць*
*нікога і нічога.*
*Адна сатчэцца лёсу ніць.*
*Адна звядзе дарога.*
*І менш за ўсё зынычыць мне*
*саму сябе... І, можа,*
*ніхто пасля не пракляне...*
*Як сёння — не паможа.*

•

*Нібыта жыццё сыходзіць —*
*кугічуць начныя птушкі.*
*Ніхто не адкрыў таямніцы —*
*як жыць шчаслівa і ціха.*
*То ходзіш па тонкім лёдзе,*
*то сыплеш вуголле ў рукі.*
*То зноў здымаеш з паліцы*
*сваю апошнюю кнігу.*
*Ну што давядзеш сусвету,*
*пакрэсліўшы гэты аркуш,*
*Пад кожны радок кідаючы сэрца —*
*нібы пад нож.*
*Начныя птушкі-паэты*
*не пішуць для белых клавішаў.*
*Іх песні — як ноч над Нараччу,*
*як студні мсціслаўскай дно.*
*Вядома, і днём хапае*
*і шчэбетаў, і руладаў.*
*Але на маёй Беларусі*
*не любяць спеваў сваіх.*
*І ноч нашы песні хавае,*
*захоўвае іх крылатымі.*
*І толькі той, хто абуджаны,*
*можа паслухаць іх.*

•

*Я хачу быць сама сабой.*
*Не чапаю сусветны гной.*
*Не слугую і не прашу.*
*Праваслаўны крыжык нашу.*
*Ты — у вечнасці, я — у сне.*
*Памаліся ж ты за мяне.*

•

*І не варта жаліцца, відаць.*
*Што чагось не выпала спазнаць.*
*Толькі гэты восень халодны дождж,*
*Важны, як венецыянскі дож,*
*Толькі гэту восень, гэты сум*
*Я з сабой у вечнасць аднясу.*
*Прагучыць між воблачных алёй:*
*"Ці было халодна на зямлі?"*
*Адкажу: "Усё, што там было —*
*Восеньскае чыстае святло..."*

### Гладыятар

*Я выйду на арэну, каб забіць.*
*Пясок усмокча кроў і гнеў хвілінны.*
*Рабоў павінны забіваць рабы.*
*Іх лёсы — як збаны з чырвонай гліны.*
*Я выйду і заб'ю. Або мяне*
*Чужой удачы пакладуць пад колы.*
*І ападуць аблокі, быццам снег,*
*І цэзар палец свой апусціць долу.*
*І — аніяк не разарваць ланцуг*
*Агульнай прагі смерці... Ёсць дарога —*
*Меч выпусціць аднойчы з дужых рук.*
*А на трыбунах — рогат, рогат, рогат...*

•

*У каўчэгу начной цішыні*
*Адплывае самота мая.*
*Пагасаюць у вокнах агні.*
*Спіць павук у гняздзе салаўя.*
*Горад спіць, як паранены вой,*
*Са смаўжом на каменным шчыце.*
*Адплываю з начной цішынёй,*
*І не знойдуць мяне анідзе.*

•

*Дарогай залатой —*
*праз восень, поле, неба.*
*Дарогай залатой — да храмаў залатых.*
*А золата душы —*
*яшчэ ачысціць трэба*
*Ад пылу мітусні, ад пожадаў сваіх.*
*Дарогай залатой —*
*да храмаў белых, белых.*
*Між могілкаў старых, між небам і зямлёй.*
*Там грэшная душа, там стомленае цела*
*Спазнаюць цішыню, спазнаюць супакой.*
*Дарогай залатой*
*імкнуць да храмаў людзі.*
*І ў ходнікі падзей сплятаюцца сляды.*
*І золата лістоў не памірае ў брудзе,*
*А сонцу аддае свой колер залаты.*

•

*Састарэлы кароль не баіцца*
*аб смерці маліцца.*
*І наследнік яго не саромецца*
*ўладнае мроі.*
*А ваяр малады на рудой памірае ігліцы,*
*На дарозе лясной,*
*пад нагамі чужацкага воя.*
*Ручнікі пазрываныя*
*з нашых крыжоў прыдарожных.*
*Цьмяны час. Цьмяны дзень.*
*Над краінаю — золак крывавы.*
*Толькі зноўку ваяр паўстае,*
*малады і прыгожы.*
*На шляху чужаніцаў,*
*не мроячы нават пра славу.*
*На ахвярнік вайны*
*самых лепшых прыносіць краіна.*
*І святлее прастор,*
*і сціхае мячоў навальніца.*
*Пераможцаў і збаўцаў*
*завуць каралеўскага сына.*
*Безыменныя воі*
*ляжаць на збуцвелай ігліцы.*



# Вяртанне Рагвалода і Тура

Кастусь ЦВІРКА

***"Край легенд" — так назваў я сваю кнігу, пісаць якую пачаў многа гадоў назад. Яе падзагаловак — "Гісторыя Беларусі паводле паданняў і легендаў". Выкарыстоўваючы народныя легенды і паданні, летапісы і хронікі, звесткі пра Беларусь старажытных пісьменнікаў і гісторыкаў розных краін, сучасныя навуковыя даследаванні, я намерыўся расказаць самым шырокім грамадскім колам, найперш моладзі, пра нашу многавекавую гісторыю. Я імкнуўся пісаць не сухой мовай навуковых трактатаў ды манаграфій, а па магчымасці папулярна, у форме гістарычных апавяданняў.***

***Адно з такіх апавяданняў — "Вяртанне Рагвалода і Тура" — і выношу цяпер на суд чытачоў "ЛіМа". Цалкам кніга будзе друкавацца ў часопісе "Маладосць". У самых бліжэйшых нумарах. Таму, хто зацікавіцца ёю, хто хоча ведаць гісторыю Беларусі, раю выпісаць гэты часопіс, бо ў кіёскі "Саюздруку" ён паступае ў зусім абмежаванай колькасці.***

**Аўтар**

У Дзвіне, каля ўзбярэжнага чарота, стаяў падгалісты, з тонкімі, як вытачанымі, нагамі, харашун-алень і піў схаладалую за ноч ваду. Напіўшыся, ён няспешна падняў галаву і павёў ва ўсе бакі вушамі — слухаў раніцу. Зусім блізка ад яго кукавала зязюлька. Аднекуль з прыбярэжнага лесу, нібы эха, адгуквалася другая. Са свістам праляцела над ракою чародка качак. У беразе, каля вытыркнутага карча, плёхнуў сом. Усе гэтыя гукі былі для аленя прывычныя, знаёмыя, і ён прапускаў іх міма вушэй.

Але раптам да яго слыху данеслася нешта новае, незразумелае. Нібы над ракою ў белаватым тумане церлася дрэва аб дрэва і ў такт гэтаму трэнню чуўся гучны ўсплёск вады. Алень насцярожана скіраваў туды вочы. З-за сіваватага лазняку, адкуль, выгінаючыся, ішла рака, высунулася чырвоная галава нейкага страшыдлы з лупатымі вачыма. Быў то нос вялікай, з высокімі бартамі лодзіі, на якой сядзелі ў жалезных шлёмах людзі. У іхніх руках відаць былі доўгія дзіды, з-за плячэй вытыркаліся выгінастыя лукі. За першай лодзіяй сунулася другая, за ёй — трэцяя, за трэцяй яшчэ выплывалі з ранішняга туману лодзіі.

Адзін з плыўцоў пярэдняй лодзіі ўстаў і, цэлячыся ў аленя, пачаў нацягваць лук. Але яго перапыніў другі плывец, што стаяў побач. Малады, падцягнуты, у адмысловым дарагім убранні, ён прыкметна вылучаўся сярод іншых плыўцоў. Гэта быў сам князь, кіраўнік дружыны. Звалі яго Рагвалод. З прасветленымі вачамі глядзеў ён на аленя, які, з цікавасцю азіраючыся на прыбышоў, як бы нехаця трусіў да лесу. Нехта з дружыннікаў свіснуў, і алень лёгкімі пружыністымі скачкамі пусціўся ў лясны схоў. Прасачыўшы за яго бегам, Рагвалод агледзеў караван лодзіяў і скамандаваў падналегчы на вёслы.

Пасля доўгіх вандраванняў па чужых краях ён варочаўся цяпер з сабранай ім дружынай паморскіх славян-варагаў дамоў, у родны Полацак, на Бацькаўшчыну.

Свой дом, свой родны Полацак Рагвалод пакінуў яшчэ малым хлапчуком.

Ён назаўсёды запомніў той дзень. Раніцай яго пабудзіў незвычайны шум, грукат, тупат мноства ног. Калі ён выбег са свайго пакоя, то ўбачыў, як з дзядзінца імчаў — з лукамі за плячыма і вострымі дзідамі ў руках — атрад за атрадам конных ваяроў, кіруючыся да абаронных валоў, за якімі відаць былі вялікія людскія сціжмы. Гэта сышліся ў лютай сечы войскі нападнікаў-кіяўлян і абаронцаў-палачанаў. Адтуль даносіўся адзін суцэльны гул бітвы, лязгат жалеза, дзікае ржанне коней. То адзін, то другі, асядланы, але без седака, конь лятаў адтуль, як ашалелы.

Вечарам, калі незлічоныя раці добра ўзброеных нападнікаў пачалі цясніць палачанаў усё бліжэй к гораду, маці разам са слугамі сабрала Рагвалода і чатырохгадовага Тура і, плачучы ды цалуючы, падвяла іх да атрада конных княжацкіх дружыннікаў. Рагвалод, які даўно ўжо навучыўся ездзіць верхам, сам ускочыў на загадзя асядланага для яго каня. Маленькага ж Тура пасадзіў перад сабой у падоўжанае сядло стары, з сівой барадой дружыннік. Старшы дружыннік адразу ж скамандаваў ехаць, і атрад патрусіў патайнай дарогай за горад, у ноч.

Многа дзён, з прываламі на начлег ехаў з княжычамі па лясных ды палявых дарогах атрад княжацкіх дружыннікаў, пакуль перад вачыма не заблішчэла зіхатлівая вадзяная прастрань Варажскага мора. А неўзабаве паказаліся і вастраверхія каменныя сцены горада памаранаў.

Малых полацкіх княжычаў прывялі ў палац самога паморскага князя. Там яны нечакана трапілі ў абдымкі нейкіх бабулек, што са слязамі на вачах пачалі распытваць іх пра бацьку ды матку, якіх яны, аказваецца, добра ведалі, нават былі ім раднёю. Княжычам далі прытулак у харомах, прылучылі да княжацкай сям'і.

Калі Рагвалод вырас і ўзмужнеў, князь паслаў яго на княжанне ў адзін са сваіх удзелаў. Там і прайшоў ён усю навуку кіравання. Не раз даводзілася Рагвалоду хадзіць у баявыя паходы на германцаў, якія хацелі адабраць у памаранаў іхнія землі, а саміх заняволіць. Не раз скрыжоўваў ён свой меч з мячамі няпрошаных гасцей.

Рагвалод быў дужы, жылісты. Усё яму ўдавалася. Але вялікай радасці не чуў: ён жа быў не дома, начамі сніўся родны Полацак, перад вачамі ўсплывалі дарагія аблічы маткі і бацькі. Ён ведаў, што адразу ж пасля яго з брацікам уцёкаў кіяўляне захапілі горад, завалодалі ўсёй Полацкай зямлёй. Параненага ў сечы бацьку яны ўзялі ў палон і павезлі з сабой. Што з ім сталася потым, ніхто з палачанаў не ведаў. Маці ж, як перадавалі, асталася ў Полацку, яе быццам бы схавалі там недзе верныя князю баяры.

Але зусім нядаўна ў Полацку ўчынілася завіруха. Палачане ўзнялі паўстанне супраць кіяўлянаў, скінулі з трона і выгналі з горада іхняга пасадніка. Ачоліць Полацкае княства даручылі на вечы княгіні Прадславе, Рагвалодавай мацеры. Маці згадзілася з умовай, што яна будзе княжыць да таго часу, пакуль не вернецца з-за мора яе сын Рагвалод: цяпер ён як законны полацкі князь-пераемнік павінен заняць бацькоўскі пасад. Веча з задаволенасцю прыняло гэтую прапанову.

Калі полацкія паслы прыджгалі да князя Рагвалода з запрашэннем на вялікае княжанне ў Полацку, ён доўга не затрымліваўся ў Памор'і. Сабраў дружыну, загадаў падрыхтаваць караблі-лодзіі і, шчыра развітаўшыся з паморскім князем ды ад душы падзякаваўшы яму за прытулак, разам з падлеткам-братам рушыў морам да вусця роднай Дзвіны.

Сонца ўжо ішло пад паўдня, калі перад вачыма дружыннікаў адкрыліся камяніцы і драўляныя пабудовы Полацка. Углядзеўшы Рагвалодавы лодзіі, палачане высыпалі на бераг Дзвіны сустракаць свайго князя. Калі Рагвалод ступіў з лодзіі на бераг, яму насустрач выйшлі паважаныя баяры з хлебам і соллю на вышываным ручніку.

Многа было ў той дзень радасці ў князя. Перад вялікай сціжмай людзей пакляўся ён быць верным палачанам, бараніць Бацькаўшчыну ад ворагаў, мацаваць дзяржаву, памнажаць багацці ўсёй Полацкай зямлі.

Але самая шчаслівая была сустрэча з маткай. Слёзы радасці так і плылі з яе вачэй, калі яна абдымала ды расцалоўвала пасталелых Рагвалода і Тура, якіх так многа гадоў не бачыла, па якіх так доўга тужыла.

Заняўшы полацкі пасад, князь Рагвалод сабраў усіх баяраў і пачаў радзіцца з імі, як аднавіць Полацкае гаспадарства і пазабіраць у кіяўлян ды ў наўгародцаў захопленыя імі полацкія надзелы.

Некалі бацька расказваў малому Рагвалоду пра колішнюю веліч і славу Полацка. Ён жа, Полацак, быў некалі сталіцай вялікай дзяржавы Крывіі, якая распасціралася на неагляднай прасторы ад вярхоўяў Нёмана і Вяллі на захадзе — да вярхоўяў Дняпра і Волгі на ўсходзе, ад самага Чудскага возера на поўначы — да Верхняга Сожа і Дзясны на поўдні. Крывіцкімі пасяленнямі былі, акрамя Полацка, — Менск, Магілёў, Віцебск, Смаленск, Ізборск, Пскоў, Крывіч-горад і шмат якія яшчэ. Але хцівыя кіеўскія ды наўгародскія князі, назбіраўшы з усяго свету велізарныя раці, сілай паадбіралі ў Полацка многія крывіцкія землі, разадраўшы на часткі калісьці вялікую Крывію.

Яму, Рагвалоду, выпала цяпер аднавіць, вярнуць яе ў свае ранейшыя межы.

Пачаў ён з бліжэйшага Пскова. Сабраў усё полацкае войска і разам са сваёй варажскай дружынай рушыў на поўнач. Рагвалод думаў, што за свае крывіцкія ўладанні — Пскоўскую зямлю — яму давядзецца многа паваяваць. Але атрымалася інакш: пскавічане, даведаўшыся, што на іх ідзе полацкі князь Рагвалод, самі прагналі наўгародскага пасадніка ў Пскове і з радасцю адчынілі перад палачанамі крапасныя вароты. Яны хацелі ізноў вярнуцца ў сваю даўнюю крывіцкую дзяржаву — Полацкае гаспадарства.

Пасля гэтага быў адабраны ад Ноўгарада і далучаны да Полацкай зямлі крывіцкі горад Ізборск з усімі яго землямі.

Цяпер чарга была за Смаленскам — даўнім крывіцкім уладаннем, а таксама гарадам Тарапцом і ўсімі крывіцкімі землямі, што цягнуліся да прытоку Акі рэчкі Протвы і вярхоўяў Масквы-ракі.



Гэтакім чынам Рагвалод адновіць усю старажытную Крывію, сталіцай якой здаўна быў Полацак.

Але пакуль што гэта была толькі мара. Рэальным яму бачылася далучэнне на першым часе роднай крывічам Дрыгавіцкай зямлі — яна ж таксама ўваходзіла некалі ў Полацкае гаспадарства. Туды ён намерыўся паслаць пасталелага ўжо і памужнелага брата Тура...

Малады князь Тур з радасцю згадзіўся на братаву прапанову. Ён сам хацеў гаспадарыць. І ён зробіць усё, каб асвоіць і адбудаваць Дрыгавіцкую зямлю, далучыць яе з усімі багаццямі да бацькавай спадчыны — Полацкага княства. Тур не пабаіцца ніякіх перашкод, ніякай небяспекі. Бо і ваяваць, бараніцца ад ворагаў патрапіць: ён жа добра патачыў свой меч аб варожыя шаломы ў баявых паходах разам з братам Рагвалодам.

З-за цёмнай паласы наддзвінскага лесу ўжо ўзыходзіла сонца, калі Тур з дружыннікамі адчальваў на лодзіях ад берага. Хоць і не лёгка было плысці ўверх па Дзвіне, усё ж грабцы, маладыя дужыя паморцы, даволі хутка гналі ўперад лёгкія паслухмяныя лодзіі. Галоўнае — даплысці да волака, а там, па Дняпры, самі рачныя хвалі добра памогуць грабцам.

Тур стаяў на карме і з цікавасцю аглядаў новыя, раней не бачаныя прасторы, што адкрываліся перад ім. Над галавой з прарэзлівым крыкам кружылі бакасы ды кнігаўкі, высока ў хмарах лунаці, ледзьве варушачы крыламі, буслы, з-за лесу чуліся працяжныя, з мілагучнымі ноткамі крыкі жураваў.

Калі праз некалькі дзён лодзіі перацягнулі волакам у Днепро, плысці і праўда стала весялей: хуткасць падвоілася. Радавалі вока высокія, абрывістыя берагі з маленькімі ямкамі-пячорамі ластаўчыных гнёздаў. Далей пайшлі лазнякі ды ракітнікі. І вось — шырокае вусце Прыпяці. Лавы ўзбярэжнага чарота, неаглядная асаковая пойма ракі. А за поймай уставалі мройныя хваёвыя бары, адкуль плыў духмяны пах жывіцы, ішлі насустрач вясёлыя беразнякі, усплывалі цемнаватыя альшанікі. Там-сям кідаліся ў вочы з карэннем вывернутыя навальніцай стромкія чырванастволыя хвоі — на вывартнях вабна жаўцеў пясок.

Убачыўшы больш высокі бераг, князь Тур загадаў прычаліць да яго: яму не цярпелася бліжэй агледзець гэтую поўную шчабятлівага птаства і сініх туманоў зямлю, ступіць на яе нагой. Калі лодзіі паставілі на прычал, ён разам з дружыннікамі папраставаў на сушэйшы груд, дзе высіліся разгалістыя дубы з шырокімі парэпанымі камлямі. Хоць паўдзённае сонца добра ўжо прыпякала, тут, пад густой лістотай перапляценых паміж сабой кронаў, быў суцэльны цень і халадок: сядзі ды адпачывай. Але князю Туру не сядзелася на месцы, і ён падаўся далей, дзе пачыналіся шырокія лугі ды верасовыя хвайнякі.

Вельмі спадабалася князю Туру Дрыгавіцкая зямля. Гэтулькі тут птушак, звяроў! Яму пападаліся сляды мядзведзяў, ласёў, казуль, тураў, а то і самі гэтыя звяры. У сваёй вандроўцы напаткаў князь Тур і некалькі дрыгавіцкіх паселішчаў. Людзі спачатку кідаліся ўцякаць ад невядомых узброеных людзей у лес, а калі ўбачылі, што яны і не думаюць рабаваць іх падворкі ды хаты, чыніць ім што-небудзь кепскае, пачалі не без асцярогі варочацца назад, знаёміцца з прыбышамі, расказваць ім пра сябе, пра іхні край ды абычай.

Праз нейкі час Тур з дружыннікамі ізноў вярнуўся да свайго прычалу. На зялёнай прагаліне між дубоў загадаў зрабіць прыстанак. Дружыннікі адразу пачалі высякаць у лесе стаякі ды жэрдкі, ламаць густыя яловыя лапкі і ладзіць часовае жытло. Паставілі шалашы. Між імі змайстравалі вялікі шалаш для князя. Пасля заходу сонца ён, здарожаны вандроўкамі па краю, лёг на падасланую сухую траву паўзверх яловых лапак і адразу ж заснуў глыбокім сном.

Спіць князь Тур у самым цэнтры Дрыгавіцкай зямлі пад шырокімі векавымі дубамі і сніць дзівосны сон. Быццам ляжыць ён на высокім-высокім возе сена і бачыць перад сабой прыгожыя сасновыя дамы ды каменныя палацы, шумныя мнагалюдныя вуліцы вялікага і светлага горада. А за ім — і там і сям — раскінуліся ўдалечыні і ззяюць сонцам на сярэбраных дахах такія ж цудоўныя, такія ж светлыя гарады.

Прачнуўшыся, расказаў князь Тур сябрам-дружыннікам пра свой незвычайны сон. І ўсе ў адзін голас сказалі князю, што гэта быў не просты сон, а прарочы. Тады загадаў князь Тур будаваць на гэтым месцы сапраўдны горад. І закіпела сярод лясной глушчэчы на ўзвышаным беразе Прыпяці работа. Спачатку, як кажа паданне, дружыннікі расчысцілі вялікую пляцоўку, насыпалі на ёй тоўсты слой рачнога пяску, па ім — трохаршынны слой дробнага вугалю ад спаленага навакольнага лесу, а вышэй вугалю накідалі бярозавай кары, потым — бітых гаршкоў. звярыных касцей і ўсё гэта прыкрылі слоем рыбінай лускі, якую прысыпалі зямлёй. Адразу ж пасля ўсяго гэтага пачалося вялікае будаўніцтва. Дзень і ноч разносіўся па наваколлі гучны стукат сякер, гохканне аб зямлю падсечаных камлюкаватых хвой, людскі гоман.

Многа ці мала прайшло часу, але на ціхаплыннай Прыпяці ўстаў светлы горад са звонкімі сасновымі дамамі і цудоўнымі палацамі. Назвалі гэты горад імем самога князя Тура — Тураў горад, або проста Тураў.

Пасярэдзіне горада быў выкапаны вялікі калодзеж, які здавён называлі людзі Туркалодзежам. Расказвалі, што ў ім былі аж тры дны: меднае, сярэбранае і залатое.

Тураў стаў сталіцай усёй Дрыгавіцкай зямлі, Тураўскага княства. Нібы спраўджваючы Тураў сон, адзін за адным уставалі ў княстве новыя гарады — Бярэсце, Пінск, Слуцк, Клецк, Рагачоў, Мазыр, Капыль, Камянец, Мельнік, Драгічын, Бельск, Брагін...

Тураўскае княства, хоць і было самастойным, але дзейнічала заадно з Полацкім гаспадарствам, складала з ім адно цэлае. Палачане і дрыгавічы памагалі адны адным, хадзілі ў баявыя паходы на агульных ворагаў. Нідзе ў летапісах і іншых гістарычных крыніцах мы не знойдзем аніякіх звестак пра спрэчкі паміж імі. І гэта можна зразумець: насялялі іх родныя паміж сабой плямёны, вельмі блізкія сваімі звычаямі і мовай. Нездарма ж яны разам з радзімічамі Пасожжа склалі потым адзіны беларускі народ.

